




Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 5 (4908) 3 лютага 2017 г.




# Рарытэтныя. Новыя. Чые?



*Фота Сяргея Нікановіча.*

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК

## XXIV Мінская міжнарожная кніжная выстаўка-кірмаш адкрыецца 8 лютага



*Фота Кастуся Дробава.*

*Падчас XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу: ля стэнда да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання заўсёды збіраліся людзі; сучасныя кнігі хацелася чытаць літаральна на месцы.*

*Фота з архіва «ЛіМа».*

Кнігі з гісторыяй і адметным лёсам і тыя, што толькі з друкарні, важкія фаліянты і кішэнныя асобнікі… Бываюць экзэмпляры толькі выставачныя: выдатная магчымасць пабачыць, з чаго 500 гадоў таму пачыналася кніга ў Беларусі, яшчэ ад Скарыны. Але на кірмашы багаты выбар — на любы густ.

Галоўная інтрыга сучаснасці не толькі ў багацці выбару кніг. Гэта разумееш, прасачыўшы, як (і як хутка) мянялася пытанне: «Што вы цяпер чытаеце?» на «Як вы цяпер чытаеце?» і далей «…Ці чытаеце?» Пытанні, што абазначаюць тэму, актуальную не толькі для нас. Таму і вырашаць іх спрабуем шырокай грамадой, з удзелам гасцей з іншых краін, з дапамогай пісьменнікаў і выдаўцоў, чытачоў кнігі традыцыйнай і тых, каго вабяць тэхналогіі. Бо справа не стольки ў самых тэхналогіях (гэта даказаў яшчэ наш вялікі Скарына, асветнік і носьбіт інавацый у сваім часе), справа насамрэч у тым, што могуць чытаць людзі дзякуючы тэхналогіям. Бо ёсць кнігі і ёсць Кнігі.

Мы іх шукаем — пра гэта сведчаць навіны з прэзентацый і сустрэч, таксама і стужкі сяброў у сацыяльных сетках. І калі ў нас мала часу на чытанне, спытваем парады ў сяброў, што выбраць. Потым спрачаемся аб прачытаным. Чытачы нікуды не падзеліся. Проста ёсць тыя, хто пакуль сябе не ўсведамляе чытачом (не трапіла тая самая кніга?), а ёсць іншыя, для каго гэта настолькі натуральная частка жыцця, што яны яе пражываюць ціха, ці тыя, хто ўспрымае добрую кнігу як падзею.

Каб аб'яднаць усіх — патэнцыяльных, рэальных, віртуальных чытачоў, — патрэбна КНІЖНАЯ ПАДЗЕЯ.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сёння праводзіць сустрэчу з прадстаўнікамі грамадскасці, беларускіх і замежных СМІ. Мерапрыемства адбываецца ў пашыраным фармаце пад агульнай назвай «Вялікая размова з Прэзідэнтам». У ім бяруць удзел амаль чатыры дзясяткі журналістаў, якія прадстаўляюць найбольш буйныя дзяржаўныя і недзяржаўныя беларускія СМІ, папулярныя інтэрнэт-парталы, аўтарытэтныя замежныя масмедыя. На сустрэчу запрошаны і шматлікія эксперты, сярод якіх вядомыя палітолагі, эканамісты, прадстаўнікі партый, канфесій і грамадскіх аб'яднанняў.

✔ Прэзідэнт Беларусі накіраваў спачуванні родным і блізкім народнага артыста Беларусі Аляксандра Ціхановіча. «Прыміце мае глыбокія спачуванні ў сувязі з адыходам з жыцця выдатнага музыканта і цудоўнага чалавека. Аляксандр Ціхановіч упісаў незабыўную старонку ў гісторыю айчыннай эстрады, песні ў яго выкананні сталі залатымі шлягерамі на ўсе часы», — гаворыцца ў спачуванні. «Чалавек вялізнага таленту і шчодрай душы, ён выхаваў цэлую пляяду яркіх маладых артыстаў і быў прыкладам адданасці мастацтву і сваім слухачам», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў калектыў Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі з 25-годдзем з дня заснавання ўстановы. «Нягледзячы на малады ўзрост, тэатр заявіў пра сябе творчым пошукам і смелым эксперыментам, выпрацаваў свой адметны эстэтычны стыль. На яго сцэне ўвасоблены лепшыя творы класічных і сучасных аўтараў», — гаворыцца ў віншаванні. Прэзідэнт адзначыў, што калектыў тэатра робіць значны ўклад у прапаганду нацыянальнай і сусветнай драматургіі, стварае цікавыя спектаклі.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народнага артыста РСФСР Льва Лешчанку з юбілеем. «Ваш дзіўны па прыгажосці голас, унікальная манера выканання, жыццесцвярджальная сіла і сапраўдны гуманізм заваявалі сэрцы шматлікіх паклоннікаў розных пакаленняў і краін», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Урадам унесены карэктывы ў парадак правядзення на тэрыторыі Беларусі асобных міжнародных і рэспубліканскіх цэнтралізаваных культурных мерапрыемстваў. Пералік дапоўнены новымі мерапрыемствамі — Рэспубліканскім адкрытым конкурсам выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах імя В. Волкава і Рэспубліканскім адкрытым конкурсам аматарскіх фільмаў імя Юрыя Тарыча «Я здымаю кіно». З «рэспубліканскага» на «міжнародны» зменены ўзровень правядзення конкурсу юных выканаўцаў эстраднай песні «Халі-хало» ў Наваполацку. Зменена перыядычнасць правядзення шэрагу мерапрыемстваў.

✔ «Рэквіем» Восіпа Казлоўскага ўпершыню выканаюць у Беларусі і на малой радзіме кампазітара ў Слаўгарадзе, паведаміў ініцыятар ідэі дырэктар Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя Паўла Масленікава Аляксандр Хахракоў. Выкананне гэтага твора будзе прымеркавана да 260-годдзя з дня нараджэння кампазітара, якое маштабна адзначаць у Слаўгарадзе напрыканцы чэрвеня.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# «Жыццё — гэта школа такая...»

**Валожынская паэтэса, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Марыя Шакун атрымала медаль «За вялікі ўклад у літаратуру».**

Падчас урачыстай вечарыны ў Валожынскім раённым цэнтры культуры, прымеркаванай да 80-годдзя Марыі Антонаўны, узнагароду творцы ўручыла калега па пяры, член савета Мінскага абласнога аддзялення СПБ паэтэса Святлана Быкава.

«Наталі сваё сэрца пяшчотай, / Прыгажосцю, дабром наталі…» — такімі радкамі прывітала публіку шаноўная юбілярка. А вядучая вечарыны паэтэса Валянціна Гіруць-Русакевіч (кіраўнік літаб'яднання «Рунь», удзельніцай якога з'яўляецца і Марыя Антонаўна) упэўнена, што гэтыя словы — жыццёвае крэда аўтаркі. Вершы Марыі Шакун — чыстыя, светлыя, напоўненыя любоўю да Радзімы, да жыцця, да людзей.

Марыю Антонаўну павіншавалі намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Валожынскага райвыканкама Лідзія Маляўкіна ды начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама Наталля Чарнышова, а таксама старшыня Валожынскай раённай арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Марыя Камінская. Паэтэсе падзякавалі за шматгадовую добрасумленную і плённую творчую працу, актыўны ўдзел у раённых мерапрыемствах, вялікую выхаваўчую работу сярод моладзі.

«На свеце ёсць бацькоўскі дом, / Дзе нарадзіўся ты і свет убачыў, / Куды вяртаўся ў час удачы і няўдач, / На свеце ёсць бацькоўскі дом…» Дзе ж яна, малая радзіма паэтэсы? Гэта — вёска Узбалаць Валожынскага раёна. Віншавальнае слова ад землякоў Марыі Шакун перадала сябра «Руні» Валянціна Краўневіч. Уласны верш юбілярцы прысвяціў сябар СПБ Аляксандр Грынкін. Марыя Антонаўна атрымала і шмат музычных падарункаў — нават... ад дырэктара Валожынскай ЦБС Ірыны Зянько!

Працоўны шлях Марыі Шакун, выпускніцы філфака БДУ, была выкладчыка рускай мовы і літаратуры, таксама пачаўся на Валожыншчыне — у Капусцінскай сярэдняй школе. Дагэтуль яна з цеплынёй успамінае вучняў і калег. Ды і як інакш, калі калектыў, без перабольшвання, быў адной вялікай сям'ёй…

Марыя Шакун — аўтар двух зборнікаў лірыкі: «Песняй рамонкаў» і «Жыццёвае поле». Абедзве кнігі пабачылі свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці». Яго дырэктар і галоўны рэдактар Ліліяна Анцух таксама далучылася да віншаванняў, зазначыўшы, што сёлета ў паэтэсы двайны юбілей: яе першая кніга, «Песняй рамонкаў», выйшла 10 год таму.

Звярнуўшыся да паэзіі ў сталым узросце, Марыя Антонаўна не развітваецца з ёю і сёння, сцвярджаючы: «Жыццё — гэта школа такая, дзе канікулаў не бывае».

Дарэчы, літаратурныя вандроўкі і выязныя мерапрыемствы ўжо сталі добрай традыцыяй для Саюза пісьменнікаў Беларусі!

**Яна ЯВІЧ**

# У інтарэсах чытача

## прапануе пісаць старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец


Фота Юліі Сярмяжка.

Мікалай Чаргінец пакідае аўтограф на ўспамін.

**Гэтымі днямі ў чытальнай зале Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом.**

Размова з Мікалаем Іванавічам ладзілася ў форме пытанняў і адказаў, таму атрымаўся грунтоўны дыялог. Абмяркоўвалі пытанні, суадносныя з тэмай сустрэчы — «Сучасная Беларусь: палітыка, эканоміка і пісьменнікі».

Мікалай Чаргінец добра арыентуецца ў сучасным стане нашага грамадства, ён — член Кансультатыўнага савета Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта. З пункту гледжання чалавека, дасведчанага як у літаратурнай, так і ў дзяржаўнай справе, Мікалай Іванавіч акрэсліў ролю сучаснага пісьменніка ў жыцці краіны:

— Пісьменнікам трэба ствараць добрыя творы, якія будуць служыць інтарэсам чытача і народа. Нельга пісаць, калі не ўяўляеш становішча сваёй краіны ў свеце, не валодаеш палітычнай сітуацыяй у дзяржаве. Калі пісьменнік не дасведчаны, то як ён адкажа на пытанні аўдыторыі, як закране душу чытача? Творца павінен шмат ведаць, часцей сустракацца з людзьмі, шукаць адказы на самыя складаныя пытанні.

Менавіта гэта і зрабіў Мікалай Чаргінец. З увагай слухаў гасцей сустрэчы, шчыра адказваў на пытанні. У першую чаргу жаночы калектыў бібліятэкі цікавіла наяўнасць пагрозы для мірнага існавання, палітычная сітуацыя ў свеце. Пісьменнік, які шмат сваіх твораў прысвяціў ваеннай тэматыцы (прычым не толькі Вялікай Айчыннай, але і афганскай вайне), запэўніў слухачоў: зараз баяцца не трэба. Афіцыйна заяўлена, што нашыя людзі не будуць змагацца на тэрыторыі чужых краін.

Падчас размовы згадалі і Год навукі: у Беларусі абмежаваны запас прыродных рэсурсаў, таму мы павінны больш шырока выкарыстоўваць інтэлектуальны патэнцыял краіны. Мікалай Чаргінец звярнуўся да прыкладу пасляваеннай Японіі — грамадства, дзе ў свой час асноўныя намаганні ўклалі ў інтэлектуальную працу, далучылі таленавітых вучоных з усяго свету, адкрылі шлях інавацыям і ў выніку атрымалі добра развітую, забяспечаную краіну. Нам таксама патрэбныя новыя ідэі, новыя распрацоўкі, таленавітыя навукоўцы.

У такіх умовах кожная бібліятэка ператвараецца ў сапраўдную скарбніцу! Прэзідэнцкая бібліятэка Беларусі таксама можа значна дапамагчы ў рэалізацыі праграм года, бо ядро яе фонду складаюць кнігі па эканоміцы, праве і кіраванні. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі нагадаў, што варта даваць магчымасць рэалізоўваць свае ідэі і маладым вучоным.

Тэма маладога пакалення ў навуцы скіравала абмеркаванне на тэму моладзі ў цэлым. Мікалай Чаргінец заўважыў, што найбольш эфектыўнай у гэтым кірунку з'яўляецца праца з інтарэсамі малады. Не трэба навязваць «правільны» погляд на рэчы, трэба захапляць, знаходзіць цікавыя заняткі для падлеткаў ды не забывацца на павагу да сям'і і краіны.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**7 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай і бардам Таццянай Жылінскай у СШ № 10 (зав. Бранявы, 15). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**10 лютага** — *на творчы вечар паэтэсы Ганны Мартынчык у вялікую залу Дома літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 18-й гадзіне.*

***Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае на мерапрыемствы ў межах Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу** (пр-т Пераможцаў, 14):*

**8 лютага** — *на прэзентацыю дзіцячых кніг празаіка Валерыя Чудава (стэнд СПБ). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**9 лютага** — *на прэзентацыю кнігі Вольгі Паўлючэнка «Малюнак пад кніжнай вокладкай» (стэнд СПБ). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**10 лютага** — *на прэзентацыю кнігі пісьменніка Ганада Чарказяна «Бериван» (стэнд СПБ). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**10 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтамі Анатолем Аўруціным і Міхасём Пазняковым з удзелам артыста тэатра і кіно, спеваком Сяргеем Краўцам (галоўная сцэна). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**11 лютага** — *на прэзентацыю кнігі празаіка Сяргея Трахіменка «Геном Ньютона» (стэнд СПБ). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**11 лютага** — *на прэзентацыю кніг серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення СПБ» (стэнд СПБ). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**11 лютага** — *на прэзентацыю кніг серыі «Мінскія маладыя галасы» (стэнд СПБ). Пачатак а 13-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**7 лютага** — *на сустрэчу з пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі «Падарожжа ў краіну яблычных сакрэтаў» у СШ № 8 г. Оршы (вул. Магілёўская, 43). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**4 лютага** — *на прэзентацыю кнігі паэта Віктара Кудлачова «Здравствуй, Гродно!» у гродзенскую гімназію № 1 імя акадэміка Я. Карскага (пр-т Я. Купалы, 82). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**7 лютага** — *на чарговыя заняткі грамадскай літаратурнай школы ў офіс Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ (г. Гродна, вул. Савецкая, 31, пакой 39). Тэма заняткаў: «Эстэтычнае ў мастацкай літаратуры». Пачатак а 17-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**10 лютага** — *на творчы вечар да 80-годдзя паэта-сатырыка Міхаіла Уласенкі «Сатыры смелы ўладар» у Горацкі раённы гісторыка-этнаграфічны музей (г. Горкі, вул. Крупскай, 3). Пачатак а 12-й гадзіне.*

Прэзентацыя

# Спасціжэнне ці адкрыццё?

**Малады паэт Максім Кішчанка ярка дэбютаваў у літаратуры паэтычным зборнікам «На зорных арэлях» («На звёздных качелях»), які выйшаў сёлета ў выдавецтве «Чатыры чвэрці». А прэзентацыя адбылася ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы гэтымі днямі.**

Аўтар шчыра дзеліцца з чытачом эмоцыямі і пачуццямі, адначасова глыбока разважаючы пра перыпетыі сучаснасці ды імкнучыся спасцігнуць гармонію паміж светам і чалавекам. «И может, это я… неясен? / И может, грешник… это я?» — разважае паэт пра сваё месца на зямлі.

Лірычны герой Максіма Кішчанкі прагне чыстага кахання: «…отвергая прагматизм, / Ищу любовь, наивно верю…» А ўрэшце падсумоўвае: «Открытий новых много впереди, / Но всё сложней любовь свою найти…»

Такім роздумам прасякнута ўся кніга. А па-сапраўднаму мастакоўскае адчуванне рэчаіснасці ў Максіма, хутчэй за ўсё, ад бацькі. Аляксандр Кішчанка — знаны майстар жывапісу і мазаікі, аўтар «Габелена стагоддзя»...

Падчас прэзентацыі кнігі аўтара-пачаткоўца павіншавалі артысты камернага хору «Классика» і дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска Алена Кубышкіна. Сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікола Маляўка і Мікола Шабовіч парупіліся над перакладамі асобных вершаў Максіма Кішчанкі на беларускую мову. Некалькі ўласных песень на вершы айчынных паэтаў выканаў пісьменнік і бард Дзмітрый Пятровіч.

Распавядаючы пра падрыхтоўку рукапісу кнігі Максіма Кішчанкі да друку, дырэктар і галоўны рэдактар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух адзначыла працу рэдактара Ірыны Мяцеліцы, а таксама дызайнера Ігара Бандаровіча. Ён, дарэчы, аформіў і выданне «Аляксандр Кішчанка. Летапісец XX стагоддзя». Фрагменты работ бацькі выкарыстаны ў мастацкім афармленні зборніка Максіма Кішчанкі. Абраўшы для сябе літаратурную дарогу (а першы верш Максім напісаў у 11 год!), малады паэт не спыняецца ў творчым пошуку.

**Яна ЯВІЧ**

З нагоды

# Лаўрэат — краязнаўца

**Прэмію імя Аляксандра Дубко «За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва» Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта сёлета атрымалі 14 прадстаўнікоў творчых прафесій.**

Узнагароду за дасягненні ў галіне мастацтва заснаваў колішні старшыня Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко. Калі ж яго не стала, добрую традыцыю падтрымала ўдава Аляксандра Іосіфавіча — Эма Нікіфараўна, а пазней — абласныя ўлады. Падчас сёлетняй цырымоніі старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў адзначыў працу пісьменнікаў Гродзеншчыны па развіцці культуры, духоўнасці і маральнасці ў грамадстве.

Сярод уганараваных — і карэліцкая краязнаўца Святлана Кошур, сябар Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яна ўжо другі раз лаўрэат прэміі імя А. І. Дубко: 15 гадоў таму, у 2002-м, творцу адзначылі як лепшага музейнага работніка вобласці (тады Святлана Андрэеўна была навуковым супрацоўнікам Карэліцкага раённага краязнаўчага музея).

Святлана Кошур — аўтар васьмі кніг краязнаўчай тэматыкі, асобных раздзелаў і артыкулаў для гісторыка-дакументальнай хронікі Карэліцкага раёна «Памяць» (2000). Краязнаўчыя выданні захоўваюцца ў бібліятэках не толькі Беларусі, але і замежжа. За кнігу «Залатая падкова Свіцязі» аўтарцы прысвоена званне «Пісьменнік года-2016».

**Дзмітрый РАДЗІВОНЧЫК**

Памяць

# «САРВАЎСЯ ГОЛАС МОЙ ВЫСОКІ...»

Песню з такім радком памятаюць прыхільнікі творчасці народнага артыста Беларусі Аляксандра Ціхановіча. Голас, што «браў» ціхай ненавязлівай шчырасцю яшчэ на пачатку кар'еры ў вакальна-інтрументальным ансаблі «Верасы», стаў пазнавальным шмат для каго як у Беларусі, так і за яе межамі не на адно дзесяцігоддзе. Яшчэ і таму, што ўдала спалучаўся з жаночым голасам Ядвігі Паплаўскай. Гэты дуэт стаў адным з сімвалам беларускай папулярнай музыкі, вельмі пазнавальным і любімым, запатрабаваным. І застанецца: таму што творцы не сыходзяць, калі іх песні гучаць ці то са сцэны, ці то ў запісах, ці нават у душах.

Аляксандр Ціхановіч стаў артыстам сапраўды народным. Пры тым, што ў музыку прыйшоў з Сувораўскага вучылішча ў Мінску, але зразумеў, наколькі важная прафесійная адукацыя. І за сваё багатае творчае жыццё ён дамогся таго, што яго музыка стала «музыкай для ўсіх». Песні «Завіруха», «Маліначка», «Зорка кахання» і іншыя сталі візітоўкамі артыста і ансамбля «Верасы».

Гэты калектыў стаў важнай часткай жыцця выканаўцы: падчас агульнай працы склаўся іх творчы і сямейны саюз з Ядвігай Паплаўскай. Разам — удваіх — яны адчувалі сябе настолькі моцнымі, што здолелі працаваць самастойна і даказалі, што нават рацыянальныя і напружаныя ўмовы шоу-бізнесу (з вялікай колькасцю канцэртаў на неабсяжнай прасторы былых савецкіх рэспублік) не перашкода ў адносінах, якія грунтуюцца на каханні. Усе цяжкасці і ўдары лёсу Аляксандр Ціхановіч перажыў дзякуючы надзейнаму «тылу» — сям'і, у якой вырасла любімая дачка Настасся. Але сілы чэрпаў яшчэ ў песні і веры, шлях да якой быў няпросты.

З пачатку 70-х другім домам для артыста была вялікая сцэна. За гады творчага жыцця выпушчана восем альбомаў, вялізная колькасць песень, якія сталі народнымі хітамі. За каштоўны ўнёсак у беларускую музычную культуру ўвосень Аляксандр Ціхановіч быў узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны.



Яму трэба было ўвесь час адчуваць сваю карысць для іншых: калі выходзіў на сцэну ў дуэце з Ядвігай Паплаўскай, ці калі дапамагаў краіне ў падрыхтоўцы выканаўцаў да «Еўрабачання», і нават калі распавядаў пра сваё вельмі асабістае — адчуванне Боскай прысутнасці і любові ў кожным імгненні жыцця. І пасля. Таму што любоў не знікае зусім, як калісьці было праспявана:

*«Просто ты летишь на свет*
*Через память прошлых лет».*

Дайджэст

• Вайсковы арсенал XVIII стагоддзя знайшлі археолагі пад замкам у Брэсцкай вобласці. Напрыканцы студзеня стартавала экспедыцыя па даследаванні замка Жабер, які знаходзіцца ў аднайменнай вёсцы. Экспедыцыю праводзяць Інстытут гісторыі НАН Беларусі і дайвінг-цэнтр «Марскі пегас». Падчас даследаванняў археолагі склалі карту глыбінь вакол замка, па прылеглым рэчышчы ракі Ясельда. Даследчыкам удалося лакалізаваць месца магчымага «скіду» часткі арсенала, які захоўваўся ў крэпасці. На сёння знайшлі навал буйных ядраў, два з якіх удалося падняць на паверхню. Снарады гэтыя належалі шведам, якія ў 1706 годзе, падчас Паўночнай вайны, захапілі Жаберскі замак. Таксама сярод знаходак — баявы багор.

• Беларускі гурт «Стары Ольса» выступіў у амерыканскім тэлешоу «*Jagger Eaton's Mega Life*» на тэлеканале *Nickelodeon*. Музыкі вучылі старадаўнім танцам вядоўцу, амерыканскую зорку скейтборду Джагера Ітана. Сёння «Стары Ольса» рыхтуецца да другога туру па ЗША: музыкі дадуць канцэрты з 1 сакавіка да 5 красавіка, пераважна ў штаце Тэхас. Беларусы выступяць на адным з найбуйнейшых фэстаў свету «*South by Southwest Music*» і на фэсце «*Sherwood Forest Fair*». Гурт таксама зайграе ў Сан-Антоніа, Даласе, Х'юстане, некалькі канцэртаў дасць на радыё.

• «Падарожжа дылетанта» вяртаецца. Цяпер перадача будзе выходзіць на партале *TUT.BY* два разы на месяц. Вяртанне ў эфір адбылося праз замежжа: упершыню за гісторыю праекта Юры Жыгамонт выехаў з Беларусі, каб з нагоды 500-годдзя першай беларускай друкаванай Біблії распавесці пра Прагу Францыска Скарыны. Пражская серыя складаецца з двух выпускаў. Пасля паездкі ў Чэхію Жыгамонт вернецца да падарожжаў па Беларусі. «Праграма існуе ўжо больш за 15 год. За гэты час, канешне, адбылося імклівае развіццё новых тэхналогій. І мне разам з маёй камандай хацелася, каб як мага больш беларусаў працягвалі глядзець перадачу і адкрывалі яе для сябе, — адзначыў Юрый Жыгамонт. — Новы фармат і рэсурс, на якім будзе выходзіць праграма, адкрывае перад ёй новыя вялікія магчымасці».

• Маштабны паэтычны фестываль «Вершы на асфальце» пройдзе 10 — 12 лютага. Сёлетні фэст памяці Міхася Стральцова шосты па ліку. Ён аб'ядноўвае творцаў з Беларусі, Украіны, Расіі, Літвы, Чэхіі і Швецыі. Літаратурныя чытанні адкрыюцца вечарам 10 лютага ў Галерэі *TUT.BY*. Асноўнымі пляцоўкамі фестывалю таксама стануць клуб «Грай» і культурніцкая прастора «Тартак». Сярод замежных хэдлайнераў сёлетняга фэсту — украінцы Сяргей Жадан і Марыяна Кіяноўская, расійская паэтка і спявачка Умка (Ганна Герасімава), літоўскія паэты Антанас Янінас і Данюс Гінталас, чэшскі пісьменнік Яхім Топал. У межах фэсту адбудуцца паэтычныя чытанні, дыскусіі, прэзентацыі новых кніг, перакладчыцкі батл і літаратурна-рок-н-рольная «Ноч паэзіі».

# ЛіМ-каляндар

**105 гадоў** таму быў створаны Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. Існаваў да 1914 г.

**105 гадоў** таму быў створаны Мінскі гарадскі музей. Існаваў да 1915 г.

**100 гадоў** таму нарадзіўся Мікола Сурначоў (1917 — 1945), беларускі паэт.

**90 гадоў** таму быў створаны Беларускі вакальны квартэт. Працаваў спачатку пры БДТ-1, потым — пры Беларускім радыёцэнтры. Існаваў да 1965 г.

**90 гадоў** таму выйшаў у свет літаратурна-мастацкі часопіс «Узвышша». Існаваў да 1931 г.

**90 гадоў** таму было створана «Усебеларускае аб'яднанне мастакоў». Існавала да 1932 г.

**85 гадоў** таму была створана Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі (да 1992 г. мела назву Беларуская дзяржаўная кансерваторыя імя А. В. Луначарскага).

**85 гадоў** таму быў створаны Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага (раней меў назву Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР).

**2 лютага** — 115 гадоў з дня нараджэння Станіслава Грынкевіча (1902 — 1945), беларускага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча, літаратара.

**2 лютага** 60 гадоў адзначае Аляксей Ляляўскі, беларускі рэжысёр тэатра лялек.

**3 лютага** — 105 гадоў з дня нараджэння Язэпа Кохана (1912 — 1993), беларускага паэта.

**3 лютага** 70-годдзе святкуе Надзея Губская, беларуская спявачка, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь.

**3 лютага** 70 гадоў спаўняецца Мікалаю Шышлову, беларускаму мастаку дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, жывапісцу, графіку.

**4 лютага** — 130 гадоў з дня нараджэння Фабіяна Шантыра (1887 — 1920), беларускага публіцыста, паэта, перакладчыка, грамадскага дзеяча.

**4 лютага** 60 гадоў адзначае Алена Лось, беларускі мастак дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

# Знайсці сваю кнігу

## Праца кнігавыдавецкай галіны за мінулы год у асобных лічбах

На пачатак 2017 года ў Беларусі зарэгістравана 497 суб'ектаў гаспадарання ў якасці выдаўцоў. З іх 180 — дзяржаўнай формы ўласнасці, 238 — прыватнай формы ўласнасці, 50 індывідуальных прадпрымальнікаў, 19 рэлігійных арганізацый і 10 грамадскіх аб'яднанняў. У Брэсцкай вобласці 27 суб'ектаў гаспадарання ажыццяўляюць выдавецкую дзейнасць, у Віцебскай — 25, у Гомельскай — 28, у Гродзенскай — 16, у Магілёўскай — 14, Мінскай — 24 і ў г. Мінску — 363.

Па дадзеных дзяржаўнага статыстычнага ўліку, у 2016 годзе выдавецтвамі і выдавецкімі арганізацыямі розных формаў уласнасці выпушчана 9581 найменне кніг і брашур агульным накладам 23,14 млн экзэмпляраў. У параўнанні з папярэднім годам колькасць выпушчаных выданняў скарацілася на 6,7%, сукупны наклад павялічыўся на 7,4%. Колькасны паказчык выпуску кніг і брашур у разліку на душу насельніцтва ў параўнанні з 2015 годам нязначна павялічыўся і склаў 2,44 экзэмпляра на аднаго жыхара.

Сярэдні тыраж адной кнігі ў 2016 годзе склаў 2,4 тысячы экзэмпляраў.

Выданні накладам да 500 асобнікаў у 2016 годзе склалі 62,9% у агульнай колькасці назваў і ўсяго 4,5% — у агульным тыражы. Выданні накладам да 5 тысяч асобнікаў — 28,3% і 26,8% адпаведна. Доля прадукцыі, выпушчанай тыражом звыш 5 тысяч асобнікаў, у агульнай колькасці назваў нязначная — 8,9%, але ў агульным тыражы складае 68,7%.

На беларускай мове летась выдадзена 1122 найменні кніг і брашур тыражом 3,74 млн экзэмпляраў. Гэта ў параўнанні з папярэднім годам менш па назвах на 3,9%, але больш па тыражы на 1,6%. Літаратура на беларускай мове займае 11,7% у агульнай колькасці выпушчанай у рэспубліцы выдавецкай прадукцыі і 16,2% у яе сукупным тыражы (у 2005 годзе — 9,2 і 7,2%, у 2010 годзе — 8,6 і 9,3%, у 2014 годзе — 9,5 і 11,6%, у 2015 годзе — 11,4 і 17,1% адпаведна). На рускай мове ў рэспубліцы выдадзена 7565 назваў тыражом 17,1 млн экзэмпляраў, што складае ад агульнай колькасці і накладу 79,0 і 73,9%.

Істотна паменшыўся выпуск літаратурна-мастацкіх кніг: па колькасці з 1167 у 2012 годзе да 569 у 2016 годзе, па тыражы — з 3,7 млн экзэмпляраў у 2012 годзе да 0,28 млн экзэмпляраў у 2016 годзе. Скарачаюцца таксама наклады выданняў для дзяцей і юнацтва: у 2015 годзе — 2,15 млн экзэмпляраў, а ў 2016 годзе — 1,6 млн экзэмпляраў.

У агульным аб'ёме выпушчанай у рэспубліцы прадукцыі кнігі дзяржаўных выдавецтваў займаюць 4,9% у агульнай колькасці і 7,0% у сукупным тыражы.

На беларускай мове дзяржвыдавецтвамі выпушчана 185 назваў тыражом 0,43 млн экзэмпляраў. У параўнанні з 2015 годам выпуск павялічыўся на 55,5% па назвах і на 26,5% па тыражы.

З прыцягненнем бюджэтных субсідый выдавецтвамі сістэмы Мінінфарма, а таксама РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"», РУП «Выдавецкі дом "Беларуская навука"» выпушчана 140 назваў тыражом 352,5 тыс. экзэмпляраў. (У 2015 годзе — 134 найменні накладам 458,8 тыс. экзэмпляраў.)

У 2016 годзе ў мэтах выканання даручэння кіраўніка дзяржавы, дадзенага на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, працягнуты выпуск літаратурна-мастацкіх твораў сучасных аўтараў для мэтавай пастаўкі ў публічныя бібліятэкі. Выдадзена 13 кніг агульным накладам 26,5 тысячы экзэмпляраў. Памер бюджэтнай субсідыі на іх выпуск склаў 340,2 тыс. рублёў.

Міністэрствам інфармацыі на працягу года ажыццяўлялася фінансаванне частковай пастаўкі накладаў асабліва значных выданняў у публічныя бібліятэкі. Бібліятэчныя фонды дадаткова папоўнілі выданні з 15 назваў у агульнай колькасці 18,6 тысячы экзэмпляраў на суму 197,5 тысячы рублёў.

# Дзяржаўная справа

**XXIV Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш чакае гасцей і наведвальнікаў, каб пазнаёміць з багаццем айчыннай кніжнай прадукцыі і пашырыць гарызонты ўяўленняў пра навакольны свет праз выданні іншых краін. Цікавасць да выстаўкі не згасае: пра гэта сведчыць, з аднаго боку, тое, што колькасць краін-удзельніц павялічваецца, а з другога — наведвальнікі больш актыўна далучаюцца да розных падзей, прэзентацый, сустрэч, што адбываюцца не толькі на галоўнай пляцоўцы, але і каля шматлікіх стэндаў экспанентаў. Што ўжо казаць пра аўтограф-сесіі, калі ёсць магчымасць прыйсці дадому з кнігай, што захоўвае подпіс вядомага, любімага (ці маладога, але перспектыўнага) аўтара, зроблены менавіта для вас. Кнігі, набытыя на выстаўцы, зоймуць свае месца на паліцы дома, але застанецца яшчэ і памяць пра адметныя знаёмствы і адкрыцці падчас зносінаў з пісьменнікамі і выдаўцамі, застануцца развагі пасля абмену думкамі з іншымі чытачамі, і, хто ведае, можа, узнікне жаданне выкласці на паперы ці электроннай старонцы свае слова, свой тэкст, з якога народзіцца новая кніга. Кніжная выстаўка — гэта прастора, дзе можна набываць кнігі, і магчымасць зразумець, як яны ствараюцца, дзеля чаго.**



**Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч адзначае:**

— Дзяржава зноў бярэ на сябе арганізацыю такога маштабнага і складанага мерапрыемства. І гэта цалкам апраўдана. Да нас, ужо ў 24-ы раз, прыязджаюць пісьменнікі і выдаўцы, распавядаюць пра літаратуру сваіх краін, прэзентуюць свае выданні. Такога кшталту фэсты фарміруюць імідж Беларусі як высокаразвітой еўрапейскай краіны, дзе выхаванне чалавека і грамадзяніна ажыццяўляецца перш за ўсё праз культуру. А кніга, чытанне ўвогуле — неад'емная частка нацыянальнай культуры. Найперш разуменне культуры народа і адчуванне гонару за яе істотна ўплывае на фарміраванне нацыі.

У Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы гэтым разам возьмуць удзел 32 краіны. Гэта значыць, што колькасць удзельнікаў пашыраецца. Як заўсёды, прадстаўнічыя стэнды ў Германіі, Францыі, ЗША, Ірана, Казахстана і іншых краін, якія не першы год праяўляюць вялікую цікавасць да Мінскай выстаўкі-кірмашу. І гэтае зацікаўленне цалкам зразумелае. Бо там, дзе разумеюць вартасць кнігі, у поўнай меры ўяўляюць яе неацэннае значэнне ў выхаванні грамадства і развіцці культуры, пазіцыя не змяняецца.

Сёлета ганаровы госць Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу — Вялікабрытанія. Гэта краіна з найбагацейшай культурай і літаратурай, з высокім узроўнем кнігавыдання. Краіна, дзе грамадства традыцыйна паважае і шануе кнігу, дзе плённа развіваецца сучасная літаратура. Падчас выстаўкі-кірмашу мы зможам у гэтым пераканацца. Да таго ж, мы маем унікальную магчымасць пабачыць, улычацца і асэнсаваць пераклады творцаў гэтай краіны на беларускую мову. І такім чынам яшчэ больш далучыцца да сусветнай культуры, а яшчэ адчуць, што наша мова — таксама яе часцінка.

Дзеля абуджэння чытацкага інтарэсу ў Мінскай выстаўцы-кірмашы ўдзельнічаюць пісьменнікі. Асаблівая ўвага традыцыйна да беларускіх аўтараў. Актыўны ўдзел, як заўжды, бяруць сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі. Не стане выключэннем і сёлетні фэст.

Ужо ў трэці раз у межах кніжнага форуму адбудзецца міжнародны сімпозіум «Пісьменнік і час», а таксама семінар маладых літаратараў «Першацвет». Нам трэба далучаць да літаратурнага працэсу свежыя сілы. Маладыя творцы не павінны знаходзіцца ў цені сваіх вядомых і заслужаных калег па пяры. Але яны павінны ведаць пра лепшы досвед, пераймаць яго. І месць дакладныя арыенціры, што ў літаратуры добра, а што — дрэнна. І дзе можа быць на карысць новы погляд на рэчы. Вось такая перадача досведу, своеасаблівая вучоба. Безумоўна, чакаецца абмеркаванне праблем пісьменніцкага асяродка.

Трэці год выстаўка ладзіцца на плошчах прэстыжнага выставачнага павільёна па праспекце Пераможцаў, 14. Кола наведвальнікаў пашыраецца. Гэта відавочна. Значыць, інтарэс да кнігі ёсць. Але яго патрэбна, як кажуць, падаграваць. Гэта мерапрыемства не для вузкага кола літаратурнага і калялітаратурнага асяродка. Мы клапоцімся пра тое, каб выстаўка была цікавая і чытачам, прычым самых розных узростаў.



Фота Кастуся Дробава.

*Да падзеі*

# Як золата пералітоўваецца агнём...

**Доўжыцца дарога да сучаснага засваення спадчыны Францыска Скарыны.**

У «Мастацкай літаратуры» — навінка: пабачыла свет кніга Францыска Скарыны «Маем найбольшае самі». Выданне, у якім сабраны перастварэнні скарынаўскіх тэкстаў на мову сучаснай паэзіі, здзейсненыя Алесем Разанавым. Урыўкі з гэтай кнігі ўжо друкаваліся ў «Полымі» і «Літаратуры і мастацтве». Сёння чытач мае магчымасць спрычыніцца да мастацкіх адкрыццяў першадрукара і яго перакладчыка. Канешне ж, будуць спрэчкі, заўвагі, як у дачыненні да любой вялікай справы. Алесь Разанаў перачытаў прадмовы легендарнага першадрукара мовай паэзіі, магчыма, у нечым аказаўся суб'ектыўным. Магчыма, камусьці нелагічным падасца сам выбар Алесем Разанавым мастацкай формы, жанру. Усё гэта — тэма ці тэмы для будучых размоў.

Сёння можна смела і аб'ектыўна павіншаваць лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алеся Разанава і выдавецтва «Мастацкая літаратура», якое пры фінансавай падтрымцы дзяржавы здзейсніла выключна вялікую справу. Прыемна, што кніга выдадзена ў чаканні 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Вядомы даследчык, кнігазнаўца Алесь Суша вось што піша ў прадмове да зборніка «Маем найбольшае самі»: «Зроблене Алесем Разанавым ацэняць сучаснікі і нашчадкі. У кнізе перастварэнняў не простыя пераклад, не простае тлумачэнне і выкладанне знойдзеных Скарынам слоў-каментарыяў, а найперш Паэзія асэнсавання розных па часе прастор, Паэзія яднання іх у адно цэлае. Гэтым цэлым, гэтым беларускім светам і апякуецца ўнікліва да Вечнасці творца». І далей: «Неўміручасць слоў Францыска Скарыны даўно спрыяе развіццю аргументацыі ў духоўных памкненнях народа Беларусі. І празорлівыя чытачы гэта бачаць і ўсведамляюць...»




Тварэнне мастацкай гісторыі працягваецца. Следам за Скарынам і Алесем Разанавым мы прачытваем, паўтараем, асэнсоўваем, разважаем: «Пісанне, натхнёнае Богам, / карыснае ўсякаму чалавеку: / для навучання / і разважання, / для ачышчэння / і высвядчэння, / для выпраўлення / і для здзяйснення праўды, / каб дасканалы быў чалавек / і здатны / да ўсякае добрае справы, / як піша апостал Павел».

Дызайн і афармленне кнігі выканала вядомы кніжны графік, дызайнер Тамара Мельянец. Зразумела, грунтам яе творчых пошукаў стала ілюстрацыйная спадчына Францыска Скарыны. Наклад кнігі, якая бачыцца добрым падарункам для ўсіх, хто неабыякавы да беларускай культуры, беларускага асветніцтва, — 500 экзэмпляраў.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

## Алесь Суша — Алесь Карлюкевіч:

# Універсальна пазітыўная асоба ў нашай штодзённасці

**Падчас гэтай часткі размовы пра Францыска Скарыну варта зразумець, наколькі шырока даходзіць да звычайных людзей само імя Скарыны. Наколькі скарынаўская тэма прысутнічае як у мастацтве, так і ў паўсядзённым жыцці нашага грамадства, нашай краіны...**



Ордэн Францыска Скарыны.




Медаль-сувенір.

**А. К.: «Постаць вялікага асветніка неадноўчы станавілася прадметам увагі беларускіх мастакоў — і ў жывапісе, і ў графіцы, кніжных знаках. Чаму б не выдаць альбом-каталог “Францыск Скарына ў выяўленчым мастацтве”?»**

**А. С.:** «Вы ведаеце, для мяне было вялікім дзівам, што такога выдання да нядаўняга часу не існавала. Менавіта таму летась я зрабіў прапанову нашаму Міністэрству культуры яго падрыхтаваць і выдаць. У выніку напрыканцы 2016 года пабачыла свет выданне “Асветнік з Полацка: ушанаванне беларускага першадрукара”. Яно выйшла адносна невялікім накладам (у межах атрыманага фінансавання), які прызначаны для бясплатнай перадачы па бібліятэках краіны. Аднак выданне пакуль не стала даступным, таму і вядомым шырокай грамадскасці, бо нават не паступала ў продаж. Сёння мы працуем з выдавецтвам “Беларусь” над падрыхтоўкай на аснове папярэдняга новага выдання — дапоўненага і перапрацаванага. Яно нарэшце здолее паказаць кожнаму неабыякаваму да культурнай спадчыны, наколькі шырока ўслаўлены наш першадрукар.

Працуючы над стварэннем альбома, мы знайшлі вельмі вялікую колькасць твораў выяўленчага мастацтва, прысвечаных Скарыну, — некалькі соцень жывапісных, графічных, скульптурных прац і твораў дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Апрача таго, мы паспрабавалі ўключыць у альбом ілюстрацыйны матэрыял, які дэманструе, як вобраз нашага асветніка прадстаўлены ў музычным, тэатральным і кінамастацтве. І, прызнаюся, гэта было няпроста.

Нашай камандай быў сабраны каласальны матэрыял, і толькі невялікая яго частка змагла ўвайсці ў выданне. Поўнае і шматбаковае апісанне і прадстаўленне тэмы ў выглядзе альбома-каталога яшчэ чакае свайго часу».

**А. К.: «Філатэлія, фалерыстыка, філуменістыка, філакартыя, медальернае мастацтва — вось абсягі, якія таксама не павінны быць па-за ўвагай скарынаўскай тэмы...»**

**А. С.:** «Гэта праўда. Я ўжо некалькі гадоў калекцыяную розныя прадметы, звязаныя са Скарынам. І павінен сказаць, што іх існуе вельмі шмат. Нават каб сістэматызаваць гэтую калекцыю, патрэбны вельмі вялікія намаганні. Але важна, што гэтыя артэфакты пра многае могуць распавесці. Напрыклад, наяўнасць у нашай краіне ордэна і медаля Францыска Скарыны як найвышэйшых дзяржаўных узнагарод, зразумела, сведчыць пра найвышэйшы ўзровень павагі нашай краіны да асобы вялікага асветніка. Граматы і дыпломы розных міністэрстваў і ведамстваў, статуэткі пераможцаў нацыянальных конкурсаў, дзённікі і падручнікі з выявай першадрукара на вокладцы — усё гэта прыклады ўшанавання Скарыны на нацыянальным узроўні.

Але, здавалася б, пра што могуць сведчыць і чаму нам цікавыя яшчэ і паштоўкі, маркі, мастацкія канверты, значкі, плакеткі і іншая драбяза. Тая ж паштовая марка з выявай першадрукара — невялічкі кавалачак паперы з надрукаванай выявай, які тыражуецца ў мільёнах аналагічных асобнікаў і прызначаны для аднаразовага і абсалютна прыкладнога выкарыстання. Але ж марка, якая адпраўляецца ў шырокі свет, адразу ж становіцца сімвалам нашай краіны, знакам нацыянальнай адметнасці ў міжнароднай камунікацыі. Дарэчы, гэтых “скарынаўскіх” паштовых марак, як ні дзіўна, было даволі шмат. Былі маркі пачатку 20-х гадоў — так званыя бэнээраўскія, марка Савецкага Саюза 1988 года, маркі беларускай эміграцыі 70-х, каля дзесяці марак часоў суверэннай Беларусі... Розныя палітычныя сілы, розныя эпохі, розныя погляды на ўладу, рэлігію і г.д. Але, як бачна, усе, хто атаясамлівае сябе з Беларуссю, успрымалі Францыска Скарыну як свой сімвал, як свайго героя. І гэта гаворыць пра тое, што яго асоба нас лучыць, яднае. У нашай мінуўшчыне не так багата асоб, якія ўніверсальна пазітыўныя для ўсіх. На жаль, розныя палітычныя і нават культурныя дзеячы мінулых эпох — ці гэта Вітаўт, ці Машэраў — для адных — нацыянальныя героі, а для іншых — не. А ў выпадку Скарыны погляды ўсіх сыходзяцца. Ён наш беларускі герой».



Дэкаратыўная кафля з выявай Францыска Скарыны.

**А. К.: «Патрэбна шырэй пра гэта гаварыць, шырэй паказваць Скарыну праз такога кшталту матэрыялы…»**

**А. С.:** «Падобныя артэфакты мы паспрабавалі абагульніць і летась прадставіць на вельмі незвычайнай выстаўцы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Яна называлася “Францыск Скарына і сучаснасць” і мела на мэце паказаць, чым ёсць Францыск Скарына для беларусаў сёння, як яго асоба інтэгравана ў нашу сучасную культурную прастору. Не ў высокія інтэлектуальныя сферы, не ў прафесійную літаратуру і прафесійнае мастацтва, а ў нашу штодзённасць. Фактычна задачай выстаўкі было адказаць на пытанне: “Якое дачыненне гэты чалавек, які памёр амаль паўтысячагоддзя таму, мае да нашых сённяшніх рэалій? Чаму мы ўвесь час звяртаемся да гэтай асобы?”

Экспазіцыю мы зладзілі ў нашым Музеі кнігі, дзе паспрабавалі паказаць, што Скарына прысутнічае ў нашым жыцці паўсюдна. Напрыклад, у першай вітрыне расказвалася пра нараджэнне дзіцяці і яго жыццё дома — з магнічікамі на лядоўні, з талеркамі, кубачкамі, пакункамі кавы і гарбаты з выявай Скарыны. Гэта ўсё насамрэч у розныя часы знаходзілася ва ўжытку. Яно не было падрыхтавана адмыслова да выстаўкі. Гэта ўсё прысутнічае ў нашай масавай культуры.

Яшчэ ў адной вітрыне мы расказалі пра школьныя гады маладога беларуса. У супрацоўніцтве з гімназіямі імя Скарыны ў Мінску і Полацку — атрымалі ад іх цэлы шэраг матэрыялаў, у прыватнасці школьную форму з іх фірмовымі нашыўкамі “ФС”, — апранулі ў адмысловую форму манекены, павесілі на іх заплечнікі са скарынаўскімі значкамі (іх выходзіла безліч у розныя часы!). З мінскай “скарынаўскай” гімназіі атрымалі і тэкст навучэнскай клятвы, якой тамтэйшыя гімназісты штогод прысягаюць 1 верасня. Прысутнічала ў той экспазіцыі і студэнцкая скарынаўская тэма (рэалізавана ў супрацоўніцтве з Гомельскім дзяржаўным універсітэтам імя Францыска Скарыны). Дзяўчына-манекен там была са скарынаўскімі завушніцамі і ў адпаведнай маечцы, а хлопец — у цішотцы з надпісам: “Францішак Скарына — канкрэтны мажор!” Мы не абышлі ўвагай нават кулінарнай “скарынаўскай” тэмы. Дамовіліся з мінскай кавярняй “У Францыска” і паказалі меню ў стылі нашага першадрукара, а таксама вельмі арыгінальны посуд. Такім чынам, праз такую вось драбязу мы паказалі, наколькі тэма Францыска Скарыны інтэгравана ў наша сённяшняе жыццё. Выстаўка атрымалася вельмі арыгінальнай і цікавай, а цяпер мы думаем пра тое, каб зрабіць яе вандроўнай, бо ўжо маем некалькі прапаноў прывезці яе ў іншыя гарады.

Урэшце дадам, што ў названым выданні “Асветнік з Полацка” асобны раздзел быў якраз прысвечаны гэтым самым “артэфактам”. У ім можна пабачыць ордэн і медаль Скарыны, памятныя і юбілейныя манеты, маркі і паштоўкі... Аднак паўнацэнны ўлік, апісанне, сістэматызацыя і выпуск каталога таксама пакуль чакаюць свайго часу».

**А. К.: «І напрыканцы нашай размовы давайце закранём такое “тэхналагічнае”, надзвычай надзённае пытанне... Калі б сёлетнім вераснем Дню беларускага пісьменства папярэднічаў у агульнаадукацыйнай школе ўрок Францыска Скарыны, то вам асабіста якой бачыцца гэтая школьная гадзіна?»**

**А. С.:** «Калі коратка, то мне падаецца, што такі ўрок павінен мець некалькі ключавых арыенціраў. Першы — асветніцкі: ён павінен уключаць аповед пра багатую гісторыю і культуру Беларусі, пра шматвекавую традыцыю развіцця нашага народа і, натуральна, пра такога выбітнага прадстаўніка гэтага народа, як Францыск Скарына. Другі арыенцір — патрыятычны: з аднаго боку, ён павінен паказаць маладым беларусам, што нам ёсць чым ганарыцца, што мы маем выключныя дасягненні і выбітных прадстаўнікоў айчыннай культуры, а з іншага боку, тут трэба паказаць, наколькі важнымі былі патрыятычныя пачуцці і ідэя служэння свайму народу ў дзейнасці самога Скарыны. Трэці арыенцір — адукацыйны: на прыкладзе Скарыны цудоўна бачна, што адукацыя і асвета — гэта магчымасць знайсці сваё месца ў свеце і свой шлях для самарэалізацыі. Чацвёрты арыенцір — “прафарыентацыйны”: Скарына, як універсальная, шматгранная, багатая асоба, здолеў праявіць сябе як першадрукар, выдавец, пісьменнік, перакладчык, тэолаг, філасоф, лекар, батанік, дыпламат, сакратар, прадпрымальнік… І ва ўсім ён быў таленавітым! Апошні пасыл, каторы, як мне прадаецца, можа даць такі ўрок, — нягледзячы ні на якія перашкоды, на неспрыяльныя ўмовы, на непадрыхтаванасць грамадства ці тэхнічны ўзровень развіцця, чалавек можа дасягнуць сваёй мэты, пераадолець непераадольнае, зрабіць раней недасяжнае, змяніць усё грамадства да лепшага, калі мае перад сабою вялікую задачу, верыць у свае сілы і не апускаючы рук перад перашкодамі метадычна і паступова робіць сваю справу. Вера ў сябе і жаданне зрабіць добра людзям — вось які ўрок нам можа даць сёння Францыск Скарына».

# Ці прычакаем непаўторны голас?

**Два дні, 8 і 9 лютага, у Мінску будзе праходзіць семінар маладых літаратараў «Першацвет». У межах мерапрыемства будуць падведзеныя вынікі аднайменнага конкурсу і прэзентаваны альманах «Першацвет».**

Пісьменнікі сталага пакалення сцвярджаюць: нельга навучыць пісаць. То бок, пэўная творчая школа не дасць гатовага аўтара. Дзеля чаго, у такім выпадку, ладзяцца падобныя семінары? Адказ на гэтае ды іншыя пытанні дае пісьменнік Алесь Бадак, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» і адзін з мадэратараў будучага творчага семінара.

**— Якія, на вашую думку, мэты семінара?**

— Навучыць пісаць сапраўды нельга, але дапамагчы развівацца таленту можна і трэба. Я двойчы быў (першы раз яшчэ школьнікам, другі — студэнтам) на славутым у савецкі час Рэспубліканскім семінары маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах, праз які прайшлі ў якасці семінарыстаў вельмі многія сёння вядомыя паэты і празаікі. Гатовыя аўтары, як грыбы, у каралішчавіцкім лесе, зразумела, не нараджаліся, але гэта сапраўды была добрая школа майстэрства. Можна фактычна да ўсяго дайсці самому, самавукам, але часам на гэта спатрэбяцца гады, а то і дзесяцігоддзі. Вучоба ў старэйшых калег скарачае гэтую часавую адлегласць.

У літаратуру вельмі рэдка ўваходзяць адразу сфарміраванымі творцамі. А цяперашні час, дзякуючы таму ж інтэрнэту, рэдактарскую працу ўвогуле робіць як бы зусім не абавязковай, што нельга назваць нармальнай з'явай. Ну а пасля — падобныя семінары не толькі дазваляюць сталым аўтарам бліжэй пазнаёміцца з маладымі, але і, як ні дзіўна, маладым больш пазнаёміцца паміж сабой. Калі мы толькі ўваходзілі ў літаратуру, то ведалі, хто з нашых равеснікаў дзе друкуецца, у каго рыхтуецца кніга, ужо не кажучы пра тое, што ведалі, у каго толькі што выйшла кніга. Сёння, на жаль, такога няма.

**— Такім чынам, можна лічыць семінар маладых літаратараў своеасаблівай спробай згуртаваць літмоладзь? У гэтай спробы будзе працяг, ці семінар — адзінкавая з'ява?**

— Я не сумняюся, што працяг будзе. І не толькі ў гэткай жа форме — напрыклад, праз год. На семінар запрошаныя, у тым ліку, супрацоўнікі нашых літаратурных выданняў і выдавецтваў, таму працяг будзе, прынамсі, з найбольш таленавітымі семінарыстамі — ужо як з аўтарамі. Дарэчы, выдавецтва «Мастацкая літаратура» сёння ўжо думае над цэлым кніжным праектам, прысвечаным новай беларускай літаратуры. Мы хацелі б абмеркаваць яго разам з маладымі, паслухаць іх меркаванні наконт таго, як сёння стаць запатрабаваным пісьменнікам, як знайсці свайго чытача, каб пасля прайсці гэты шлях разам — ад падпісання да друку рукапісаў да прэзентацыі выдадзеных кніг.

**— Работа будзе праводзіцца па секцыях прозы, паэзіі, крытыкі, перакладу і драматургіі. На чым робіцца акцэнт падчас семінараў?**

— Асноўнае на семінары — гэта аналіз твораў. У якой форме, у многім залежыць як ад «настаўнікаў», так і ад саміх



*Алесь Бадак.*

семінарыстаў. Прынамсі, мне хацелася б, каб гэта была і дыскусія, якая б выходзіла за межы канкрэтных твораў канкрэтных аўтараў, паколькі тыя, хто будзе прысутнічаць на семінары, — гэта ў нейкім сэнсе люстэрка ўсёй маладой беларускай літаратуры. Чаму б не пагаварыць пра яе ў цэлым? Ну, а пасля — гэта будучыня нашай літаратуры. Чаму б не паспрачацца пра гэтую будучыню?

**— Сёлета бяруць удзел маладыя літаратары з Беларусі і Расіі. Надалей геаграфія пашырыцца?**

— Спадзяюся, у найбліжэйшай перспектыве да нас далучацца маладыя пісьменнікі з Украіны. Прынамсі, у арганізацыйным, скажам так, тэхнічным плане тут усё, мне здаецца, вырашальна, хоць бы таму, што маладыя ўкраінскія пісьменнікі да нас прыязджалі ўжо не раз. Але і на Міжнароднай мінскай кніжнай выстаўцы, і на Дні беларускага пісьменства традыцыйна бывае шмат замежных гасцей-пісьменнікаў. Я думаю, з імі можна будзе абмеркаваць і пытанне пашырэння ўдзельнікаў семінара маладых.

**— У межах семінара будуць падведзеныя вынікі конкурсу маладых літаратараў «Першацвет». Гэтаксама будзе прэзентавацца зборнік «Першацвет»...**

— Па ўмовах конкурсу, у ім удзельнічалі маладыя паэты і празаікі Беларусі, а выбраць трэба было 10 лепшых твораў у галіне паэзіі і дзесяць — у галіне прозы. Такім чынам, лаўрэатамі сталі дваццаць чалавек. У конкурсе ж узялі ўдзел каля 160 маладых аўтараў.

Вельмі радуе, што маладыя імкнуцца да нейкай разнастайнасці, што яны ўвесь час стараюцца мяне, чытача, нечым здзівіць, рассмяшыць, раззлаваць, але каб толькі не пакінуць абыякавым. У многіх выпадках яны бачаць гэты свет крыху паіншаму, чым, да прыкладу, маё пакаленне, але мне цікава хоць бы на час «улазіць у іх скуру». Іншая справа, што ў гэтым моладзевым хоры мне пакуль не хапае голасу — таго адзінага і непаўторнага, які прымушае заміраць сэрца. Не хапае асобы, за якой можна было б разгледзець будучага класіка не толькі нашай, але, скажам, усёй еўрапейскай літаратуры. Каб пачуць такі голас, і патрэбныя, у тым ліку, падобныя конкурсы і семінары.

**Пытанні рыхтавала Наста ГРЫШЧУК**

ПЕРША-ЦВЕТ! Літаратурны конкурс

# «Хочацца больш беларускага слова...»

***З якімі думкамі й настроем збіраюцца наведаць семінар самі маладыя літаратары? Пра гэта распавядаюць галоўныя героі творчай падзеі.***

**Маргарыта Латышкевіч, паэтэса, празаік, рэдактар аддзела часопіса «Маладосць»:**

— Ад семінара маладых аўтараў найперш чакаю сустрэчаў з калегамі — і аднагодкамі, і старэйшымі. Заўжды карысна абмеркаваць ідэю і магчымасці яе рэалізацыі, пабачыць у іншым ракурсе, паглядзець, як робіць іншая, атрымаць параду. З гэтай прычыны сацыялізацыя аўтара робіцца шчыльна перапляцёнай з яго сталеннем як літаратара.

Многіх удзельнікаў семінара я ведаю асабіста, таму вельмі рада нагодзе сустрэцца з прыяцелямі. Натуральна, прыемна пазнаёміцца з новымі людзьмі, таксама апантанымі літаратурай (тут мой інтарэс робіцца прафесійным, бо заўжды хочацца прывесці цікавага аўтара на старонкі «Маладосці»).

У 2016-м я брала ўдзел у міжнародным семінары маладых пісьменнікаў, прымеркаваным да кніжнай выстаўкі (дасюль помню вострае выступленне А. М. Андрэева), у веснавой сустрэчы беларускіх, рускіх і ўкраінскіх аўтараў у Сілічах. Досвед падказвае, што абавязкова знойдуцца аднадумцы ды прыемныя субяседнікі, якія могуць даць натхненне, штуршок да новых праектаў. А гэта вельмі важна.

Падобным жа чынам, дарэчы, мы паспрабуем арганізаваць творчыя майстэрні для пачаткоўцаў на філалагічным факультэце (у межах тыдня беларускай мовы). Магчыма, праз некалькі год нашыя пачаткоўцы змогуць паўдзельнічаць і ў больш сур'ёзных мерапрыемствах — як Семінар маладых пісьменнікаў.

**Юлія Алейчанка, паэтэса, перакладчыца, адказны сакратар часопіса «Полымя»:**

— Некалі Данута Бічэль-Загнетава слушна сказала: «Паэт набірае разгон, калі яго творчасць знаходзіць месца ў сэрцах аднагодкаў і водгаласам, прызнаннем вяртаецца да яго». Канешне, пачэсна атрымаць водгук на сваю творчасць ад «мэтра». Але калі цябе не чуюць, не заўважаюць, не разумеюць маладыя, ці можаш ты лічыцца сучасным і запатрабаваным аўтарам? Пэўна, не. Менавіта дзеля такога творчага дыялогу, канструктыўнай крытыкі і ладзяцца творчыя семінары маладых. Легендарнымі былі такія семінары ў беларускіх пісьменнікаў старэйшага пакалення… Колькі цудоўных згадак пра Каралішчавічы маем сёння! А колькі выдатных творцаў яны ўзгадавалі!..

Семінар маладых пісьменнікаў у межах Міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу — спроба, хай сабе і ў іншай форме, адрадзіць такія слаўныя сустрэчы. Летась я ўжо мела магчымасць паўдзельнічаць у гэтым мерапрыемстве, пазнаёміцца з цікавымі думкамі «настаўнікаў». Спадзяёмся, што сёлета маладыя галасы загучаць на поўную моц, будзе болей магчымасцей прадставіць сябе, паспрачацца ў адпаведнай секцыі…

**Святлана Курганава, журналіст, калумніст, студэнтка філалагічнага факультэта БДУ:**

— Раней у падобных мерапрыемствах я не ўдзельнічала, таму няма нейкіх пэўных чаканняў. Для мяне гэта магчымасць пазнаёміцца і пагутарыць з людзьмі, якія працуюць у той жа сферы, што і я.

**Алесь Емяльянаў-Шыловіч, паэт, перакладчык:**

— Мне здаецца, што можна было б арганізоўваць паболей семінараў, майстар-класаў для перакладчыкаў. Вельмі бракуе айчыннага інстытута перакладу ці якой-небудзь асацыяцыі перакладчыкаў (маю на ўвазе на дзяржаўным узроўні). Няблага было б стварыць якую-небудзь дзяржаўную прэмію ў галіне перакладу (у дадатак да Шэрмана) ці падтрымаць ужо існуючыя ініцыятывы.

**Яна Явіч, паэтэса, перакладчык, аўтар дзіцячых кніг:**

— Для мяне семінар маладых літаратараў — выдатная магчымасць сустрэцца з калегамі па пяры, пагаварыць пра надзённае. На мінулагоднім форуме пачула шмат карыснага, прыкладам, вельмі ўразіла меркаванне айчыннага пісьменніка Анатоля Андрэева пра тэкст як спалучэнне літаратурных тэхнік.

Як маладому аўтару стаць актыўным удзельнікам літаратурнага працэсу? Што рабіць, каб не згубіцца сярод такіх жа творчых равеснікаў? Як навучыцца па-пісьменніцку рэагаваць на тое, што адбываецца ў сучасным свеце, поўным супярэчнасцей і катаклізмаў? Спадзяюся, пасля семінара гэтыя пытанні не застануцца без адказаў.

**Аксана Ярашонак, паэтэса, карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты»:**

— Семінар разглядаю, перш за ўсё, як новыя знаёмствы і сустрэчы з добрымі старымі сябрамі. Магчыма, і як пераадоленне творчага крызісу, бо апошнія паўгода амаль зусім не пішу вершаў. Увесь час яшчэ са школы ўдзельнічала ў гарадскіх конкурсах-імпрэзах. Але першым сур'ёзным семінарам для мяне стаў семінар маладых літаратараў Мінршчыны ў маі 1999 года. Я тады якраз заканчвала 11 класаў. На два дні мы паехалі ў пансіянат на Лагойшчыну. Ведаеце, хто быў «настаўнікам» на нашай секцыі? Незабыўны, таленавіты, проста неверагодны Алесь Пісьмянкоў. Тут я ўпершыню сутыкнулася з сур'ёзнай крытыкай на свае вершы. У школе прывыкла да выказванняў «Якая таленавітая дзяўчынка. Вершыкі піша па-беларуску». А тут, пачуўшы іншых і паслухаўшы крытыку Пісьмянкова, зразумела, што да сапраўднай паэзіі майму рыфмаванню яшчэ ой як далёка. На гэтым жа семінары пазнаёмілася з пісьменнікамі Янкам Лайковым і Міколам Адамам. Пасёння захоўваем прыязныя адносіны, сочым за творчасцю адно аднаго.

Ад надыходзячага семінара, калі ўжо зусім шчыра, хочацца больш беларускага слова.

**Дар'я Значонак, празаік, студэнтка Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта:**

— Я брала ўдзел у самых розных літаратурных конкурсах, але яшчэ ніколі не даводзілася ўбачыць «канкурэнтаў» на свае вочы. Ці даўно яны пачалі пісаць? Якім чынам змагаліся з цяжкасцямі, з якімі сутыкаецца пісьменнік-пачатковец? У якіх жанрах працуюць, якой тэматыцы аддаюць перавагу? Маладому літаратару, як нікому іншаму, важна мець аднадумцаў. З імі можна абмеркаваць сваю творчасць, чакаючы аб'ектыўнай ацэнкі, і абмяняцца карыснымі парадамі, якія дапамогуць адшліфаваць слабы рукапіс і зрабіць з яго сапраўдную кнігу. Дзе ж можна пазнаёміцца з калегамі, як не на падобным семінары? Магчыма, менавіта на гэтым мерапрыемстве многія адчуюць, што ім адкрываецца шлях у літаратуру, адкрываецца ў гэты самы дзень і гэтую самую гадзіну. Вельмі сімвалічна, што семінар супадае з абвяшчэннем пераможцаў конкурсу. Гэта стымулюе працаваць далей і дае надзею на новыя поспехі ў галіне літаратуры.

**Падрыхтавала Наста ГРЫШЧУК**

# ПРАЗ ЛІТАРАТУРУ — ДА ЗБЛІЖЭННЯ КРАІН

**Наладжаны дыялог паміж пісьменнікамі, кнігавыдаўцамі і чытачамі з розных краін — добры падмурак для паспяховага развіцця літаратуры ва ўсім свеце. Сёлета Мінск у трэці раз стане пляцоўкай для стварэння асабістых літаратурных стасункаў, цёплых сустрэч ды цікавых мерапрыемстваў: у межах XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ладзіцца Міжнародны сімпозіум літаратараў «Пісьменнік і час».**

Уражвае разнастайны склад краін-удзельніц выстаўкі і доўгі спіс гасцей сімпозіума: акрамя беларусаў, удзел у сустрэчы возьмуць прадстаўнікі Вялікабрытаніі, Азербайджана, Італіі, Казахстана, Кітая, Латвіі, Малдовы, Польшчы, Расіі, Славакіі, Таджыкістана, Румыніі, Туркменістана, Турцыі, Украіны, Фінляндыі, Чэхіі. Калі сімпозіум прыцягвае да сябе столькі ўдзельнікаў, гэта сведчыць пра яго высокі ўзровень і запатрабаванасць.

Распачне сімпозіум сустрэча ў фармаце круглага стала ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Тэмай круглага стала абралі прадстаўленне нацыянальных літаратур у беларускіх спецыялізаваных выданнях — часопісах «Нёман», «Маладосць», «Полымя», а таксама газеце «Літаратура і мастацтва». Названыя выданні спрыяюць распаўсюджванню твораў пісьменнікаў і паэтаў не толькі сваёй краіны, але і замежжа, бо праз пераклады чытачы газетнай і часопіснай перыёдыкі знаёмяцца з разнастайнасцю сусветнага літаратурнага працэсу.

Самай значнай падзеяй сімпозіума стане пленарнае пасяджэнне «Пісьменнік і час: 500-годдзе беларускага кнігадрукавання як частка сусветнай кніжнай гісторыі» з удзелам маладых літаратараў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. На ўрачыстае адкрыццё пасяджэння завітаюць міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, а таксама дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі. У ролі мадэратараў абмеркавання выступяць намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алесь Карлюкевіч ды намеснік дырэктара «Выдавецкага дома "Звязда"», галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота.



Фота Кастуся Дробава.

Падчас леташняга форуму.

У юбілейны год беларускага кнігадрукавання адной з галоўных тэм, якія распрацоўваліся ўдзельнікамі сімпозіума, будзе роля Францыска Скарыны ў развіцці беларускай і сусветнай культуры. Заўважна, што наш таленавіты суайчыннік цікавіць не толькі беларусаў, але і замежных гасцей краіны. На пасяджэнні абмяркуюць літаратурныя стасункі ў кантэксце міжнародных узаемаадносін, звернуцца да перспектыў развіцця міжнародных літаратурных сувязей. Усіх пісьменнікаў ды паэтаў зараз хвалююць функцыі, што выконвае літаратура ў сучасных рэаліях, стан літаратара ў грамадстве.

— Роля пісьменніка ў сучасным свеце, з аднаго боку, зараз прыменшана праз масмедыя, надакучлівую рэкламу, інтэрнэт, але, калі глядзець глыбей, яна ўсё роўна значная. Такія сімпозіумы, як «Пісьменнік і час», вельмі важныя, бо гэта сучасная форма арганізацыі літаратурнага працэсу, якая дае магчымасць падтрымліваць кантакты, абменьвацца думкамі і заводзіць новыя літаратурныя сувязі, прасоўваць актуальныя праекты. Да таго ж мне заўсёды цікава, чым жыве і дыхае сучасная беларуская літаратура. Дзе, як не на выстаўцы-кірмашы, лепш за ўсё пра гэта даведацца? — зазначыў **Сяргей Главюк, генеральны дырэктар Міжнароднага агенцтва гуманітарных ініцыятыў,** член Саюза пісьменнікаў Расіі, ганаровы член Саюза пісьменнікаў Македоніі, Сербіі, Чарнагорыі.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Сяброўства і літаратурныя здабыткі


*Алена Стэльмах.*

Напярэдадні Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час» першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алена Стэльмах распавяла пра значэнне сімпозіума для Беларусі, зацікаўленасць прадстаўнікоў іншых краін ва ўдзеле ў беларускіх кніжных выстаўках, а таксама пра сувязі беларускіх пісьменнікаў з замежнымі літаратарамі:

— Сустракацца на пачатку лютага ў Мінску (сёлета міжнародны сімпозіум «Пісьменнік і час» адбудзецца ўжо ў трэці раз) — традыцыя, якую надзвычай ухваляе міжнародная літаратурная супольнасць. Вядомыя замежныя літаратары сцвярджаюць: у рэаліях сучаснага супярэчлівага свету відавочна, што ў Беларусі падтрымліваецца літаратурная творчасць, важкасць мае слова пісьменніка, а кнігавыданне з'яўляецца адным з прыярытэтных клопатаў дзяржавы. Прыкметны і беларускі ўплыў на падтрымку іншых нацыянальных літаратур, жаданне праклаcці масты сяброўства ў блізкім і далёкім замежжы праз літаратурныя здабыткі.

Мінская міжнародная выстаўка-кірмаш, у рамках якой праходзіць сімпозіум, даўно стала пляцоўкай для актыўных дыскусій, абмену думкамі, нагодай для пашырэння перакладчыцкай дзейнасці. Тут выпрацоўваюцца новыя творчыя праекты, якія яднаюць творцаў розных краін, а іх словы — праўдзівае, сумленнае, шчырае — служыць міру і згодзе. Такой думкі прытрымліваецца адзін з актыўных удзельнікаў міжнародных сімпозіумаў «Пісьменнік і час» Ато Хамдам, сустаршыня форуму перакладчыкаў і кнігавыдаўцоў краін СНД і Балтыі, кіраўнік упраўлення «Літаратурныя сувязі пісьменнікаў Таджыкістана».

Беларусь, яе багатае гістарычнае мінулае, прывабліві сучасны вобраз кожны раз па-новаму натхняе замежных майстроў пяра. Нашай краіне яны прысвячаюць лепшыя творы. Пісьменнікі хочуць расказаць на сваёй Радзіме пра Беларусь, якую палюбілі ўсёй душой, і жадаюць гэту любоў памножыць сярод сваіх суайчыннікаў. Сёлета выстаўка ў Мінску збярэ на сімпозіуме прадстаўнікоў больш чым з дзесяці краін — Вялікабрытаніі, Кітая, Казахстана, Латвіі, Польшчы… Найбольш прадстаўнічая дэлегацыя прыедзе з Расіі. У яе складзе і члены Клуба пісьменнікаў Каўказа: паэт Адам Ахматукаеў (Чачэнская Рэспубліка) і вядомы балкарскі паэт Саліх Гуртуеў, ганаровы старшыня і стваральнік Клуба пісьменнікаў Каўказа.

На пленарным паседжанні сімпозіума замежныя госці далучацца да абмеркавання тэмы 500-годдзя беларускага кнігадрукавання як часткі сусветнай кніжнай гісторыі. У Мемарыяльнай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі замежныя літаратары разам з беларускімі калегамі, а таксама стваральнікамі літаратурнай перыёдыкі Беларусі за круглым сталом абмяркуюць важнасць выдання нацыянальных літаратурных часопісаў і газет. Імёны многіх творцаў сталі вядомыя менавіта з друкаваных літаратурных крыніц. Дзякуючы ім чытач атрымаў магчымасць даведацца пра нацыянальныя звычаі, традыцыі, культуру іншых народаў.

Акрамя таго, нашых гасцей чакаюць у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі імя Якуба Коласа. Дырэктар музея Зінаіда Камароўская ўсцешана такой сустрэчай: у яе планах — пашырыць творчасць Якуба Коласа праз пераклады яго твораў на іншыя мовы. Такім чынам, падчас Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час» адбудзецца не толькі творчы, але і дзелавы дыялог.

# «Унікальная магчымасць для сустрэч»


*Святлана Ананьева.*

Меркаваннем пра актуальнасць і запатрабаванасць XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выставы-кірмашу з «ЛіМам» падзялілася ўдзельніца Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час» Святлана Ананьева, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. А. Аўэзава Міністэрства навукі і адукацыі Рэспублікі Казахстан.

**— Раскажыце, калі ласка, пра ролю літаратара ў сучасным грамадстве. На ваш погляд, пісьменнік можа паўплываць на падзеі ў сваёй краіне, у свеце?**

— Шчыра хочацца верыць, што голас пісьменніка будзе пачуты. Менавіта ён піша пра актуальныя праблемы рэчаіснасці, стварае яркія вобразы герояў, адрасуе свае словы неабыякавым чытачам. Напрыклад, у сучаснай казахскай літаратуры пра трагедыю Аральскага мора піша Абдзі-Жаміл Нурпеісаў, мэтр нашага прыгожага пісьменства. Пра тое, наколькі важная экалагічная тэматыка і праблематыка, можам меркаваць па анталогіях казахскай літаратуры «*The Stories of the Great Stepp* / Апавяданні Вялікага стэпу» і «*Summer Evening, Prairie Night, Land of Golden Wheat. The Outside World in Kazakh Literature* / Летні вечар, ноч у прэрыі, зямля залатой пшаніцы: знешні свет у казахскай літаратуры». Мастацкія тэксты, змешчаныя ў азначаных анталогіях па праблеме зносін чалавека і прыроды, выдаюцца сумесна з Калумбійскім універсітэтам на англійскай мове і шырока запатрабаваныя ва ўніверсітэтах ЗША, дзе вывучаюць казахскую мову, літаратуру, культуру.

**— Якое значэнне маюць міжнародныя сімпозіумы для ўсталявання сувязяў паміж літаратарамі з розных краін?**

— Праз такія мерапрыемствы, як сімпозіум «Пісьменнік і час», Беларусь дапамагае развіваць міжнародныя сувязі, дорыць унікальную магчымасць для сустрэч пісьменнікаў, паэтаў, літаратуразнаўцаў і крытыкаў. Падчас сімпозіума можна будзе асабіста падзякаваць рэдкалегіі часопіса «Нёман» і галоўнаму рэдактару Аляксею Чароце за публікацыю матэрыялаў з Казахстана пра сучасны сусветны літаратурны працэс. У межах заключаных дагавораў наш Інстытут літаратуры і мастацтва імя М. А. Аўэзава працягвае супрацоўніцтва з Выдавецкім домам «Звязда», Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа. Пра важнае значэнне міжнароднага сімпозіума «Пісьменнік і час» мы разважаем з А. М. Карлюкевічам у частцы «Літаратура Беларусі», з якога распачынаецца новая калектыўная манаграфія нашага інстытута «Сусветны літаратурны працэс XXI стагоддзя».

**— Чым вас прываблівае XXIV Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш?**

— Новымі выданнямі, прэзентацыямі, магчымасцю задаць пытанне аўтару ўпадабанай кнігі, узяць удзел у дыскусіях. Да таго ж там прадстаўлены цікавыя выданні кніг і часопісаў для дзяцей, навуковая ды навукова-папулярная літаратура. Пасля працы над часткай пра сучасную літаратуру Фінляндыі для ўжо згаданай калектыўнай манаграфіі «Сусветны літаратурны працэс XXI стагоддзя» і візіту ў найбуйнейшую Славянскую бібліятэку ў Хельсінкі я асабліва ўдзячная арганізатарам XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу за стэнд па фінскай літаратуры.

Хочацца пажадаць XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашу паспяховай працы!

**Гутарыла Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**





Фіёна Гіб.

# З брытанскай дакладнасцю

## Чым прывабіць стэнд ганаровага госця?

**Стэнды ганаровых гасцей міжнародных кніжных выставак традыцыйна прыцягваюць айчынных наведвальнікаў. І заўсёды ёсць інтрыга ў праграме: што прадставяць, з кім пазнаёмяць падчас імпрэз, арганізаваных на стэндзе краіны. Сёлета ёсць магчымасць адкрыць Вялікабрытанію — адчуць яе праз водар кніжных старонак (раптам ён асаблівы?), праз гучанне англійскай мовы, ды знаёмства з асобамі, якія прыедуць да нас, магчыма, і дзеля таго, каб адкрываць Беларусь. Адкрываць адзін аднаго і знаходзіць у гэтым падставы і цікавасці для супрацоўніцтва — вось што цікава прадстаўнікам розных краін, калі яны ўдзельнічаюць у міжнародных праектах. І калі Вялікабрытанія ў якасці ганаровага госця паказвае сябе ўпершыню, то з думкай пра тое, каб за гэтым адкрываліся новыя перспектывы. Пра гэта, адказваючы на пытанні газеты «ЛіМ», разважае спадарыня Фіёна Гіб, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Аб'яднанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі ў Рэспубліцы Беларусь.**

**— Якія кірункі вы лічыце прыярытэтнымі ў сваёй працы, а таксама дыпламатычнай місіі ў цэлым, у сферы культуры і ў першую чаргу літаратуры? Наколькі гэта спрыяе развіццю двухбаковых адносін паміж нашымі краінамі?**

— Роля нашага пасольства — падтрымліваць развіццё адносін паміж Вялікабрытаніяй і Беларуссю, а таксама заахвочваць значны і пастаянны прагрэс у Беларусі па пытаннях належнага кіравання, правоў чалавека і эканамічных рэформаў. Сёлета мы спадзяёмся развіць парламенцкае супрацоўніцтва, бо цяпер у парламенце Вялікабрытаніі ёсць усепартыйная група па Беларусі. Мы таксама зацікаўленыя ў прыцягненні брытанскага бізнесу ў Беларусь. Яшчэ адзін кірунак, які мы хацелі б развіваць, — гэта супрацоўніцтва ў галіне адукацыі. Таксама цяпер, з увядзеннем пяцідзённага бязвізавага рэжыму, вашу краіну будзе прасцей наведаць: вядома, мы б хацелі бачыць у Беларусі больш брытанскіх турыстаў. Супрацоўніцтва ў галіне культуры пакуль не надта плённае. Мы будзем ганаровым госцем на XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, але я не лічу гэта выключна культурным супрацоўніцтвам. Для нас гэта магчымасць для прасоўвання англійскай мовы, садзейнічання развіццю адукацыі ў Вялікабрытаніі, а таксама брытанскай выдавецкай індустрыі, каб у будучыні ў беларускіх кнігарнях было больш кніг на англійскай мове па самых даступных цэнах.

**— Наколькі цікавая вашай краіне беларуская нацыянальная культура? Што ведае грамадскасць Вялікабрытаніі пра беларускую літаратуру і сучасных пісьменнікаў?**

— Я думаю, будзе справядліва сказаць, што жыхары Вялікабрытаніі мала ведаюць пра Беларусь, тым больш мала хто ведае што-небудзь пра беларускую літаратуру і сучасных пісьменнікаў. Друкуецца вельмі мала кніг, і яны не прасоўваюцца сярод чытачоў. Аднак у апошнім *Open Eurasian Literature Festival & Book Forum* (Адкрытым Еўразійскім літаратурным фестывалі і кніжным форуме) у Лондане ўзялі ўдзел некалькі беларускіх пісьменнікаў, якія нават выйгралі прызы. Гэта азначае, што, калі беларускую літаратуру, як класічную, так і сучасную, актыўна прасоўваць у Вялікабрытаніі, у яе будзе вялікі патэнцыял.

Мы зацікаўленыя ў развіцці супрацоўніцтва паміж творцамі. Мушу дадаць, што ў лістападзе 2015 года ў Лондане ў мэтах садзейнічання супрацоўніцтву паміж творчымі людзьмі з краін СНД з партнёрамі ў Вялікабрытаніі была заснавана Еўразійская творчая гільдыя.

**— Наколькі папулярная кніга ў вашай краіне? Выданнямі якога кшталту цікавяцца сучасныя брытанцы?**

— Штогод у Вялікабрытаніі публікуецца больш за 184 000 новых кніг (а ў Беларусі, наколькі я ведаю, — 12 000). Колькасць кніг, што прадаюцца, расце і складае цяпер звыш 2,75 мільярда фунтаў стэрлінгаў. Згодна з дадзенымі *Amazon* і кнігарань, бестселерамі з'яўляюцца кулінарныя кнігі, кнігі пра дыеты, дэтэктывы, дзіцячыя кнігі, фэнтэзі, любоўныя раманы... Мне сказалі, што ў вас лепш за ўсё прадаюцца дэтэктывы і трылеры, гістарычныя раманы, біяграфіі і кнігі пра культуру.

**— Якія мерапрыемствы ладзяцца ў вашай краіне з мэтай папулярызацыі кнігі і кнігавыдання? Ці ёсць вялікія кніжныя выстаўкі? Ці бывае на іх прадстаўлена Беларусь?**

— Штогод у Лондане ладзіцца фантастычны і яркі Лондански кніжны кірмаш, які сёлета пройдзе 14 — 16 сакавіка. Не менш папулярны і Кніжны фестываль у Эдынбургу ў жніўні і верасні кожнага года ў рамках сусветна вядомага Эдынбургскага фестывалю. Існуе штогадовы *Open Eurasian Literature Festival & Book Forum*, які я ўжо згадвала, і летась, калі ён праходзіў у пяты раз, там узялі ўдзел тры пісьменнікі і тры студэнты з Беларусі. Здаецца, што Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь было зацікаўленае ва ўдзеле ў Лонданскім кніжным кірмашы. Насамрэч у нашай краіне існуе столькі падзей, звязаных з кнігай, што я не магу назваць усе!

**— Ці ёсць сярод творчай супольнасці вашай краіны людзі, зацікаўленыя Беларуссю, якія гатовыя да нас прыехаць на выстаўку і прадставіць свае кнігі? Як развіваецца супрацоўніцтва ў кірунку перакладной літаратуры на нашы мовы?**

— Так, сапраўды, мы сталі ганаровым госцем Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу, як я ўжо казала, і па нашым запрашэнні прыедуць брытанскія пісьменнікі. Напрыклад, аўтары Дэвід Пэрыш, Джо Дантарн і Эндру Дыксан распавядуць пра свае кнігі і зладзяць адмысловыя прэзентацыі. Больш падрабязна пра тое, дзе і калі пройдуць іх імпрэзы, можна даведацца на нашай старонцы ў *Facebook — UK in Belarus*. Таксама аўтар адзінага падарожніка па Беларусі на англійскай мове Найджэл Робертс распавядзе на кніжным кірмашы пра свой досвед падарожжаў па вашай краіне, які ён набыў за апошнія пятнаццаць гадоў. Я спадзяюся, што вашы чытачы наведаюць усе гэтыя захапляльныя падзеі ў межах выстаўкі 8 — 12 лютага.

Што тычыцца перакладу літаратуры на нашы мовы — так, ёсць праекты ў стадыі рэалізацыі. Напрыклад, у Вялікабрытаніі выдавец *Hertfordshire Press* зараз працуе над трыма праектамі. Адным з іх з'яўляецца пераклад Якуба Коласа на англійскую мову. Таксама рыхтуецца да выдання кніга пад назвай «100 уражанняў ад Беларусі» і перакладаецца дзіцячая кніга Алеся Карлюкевіча.

Ёсць, вядома, іншыя прыклады, але, працягваючы гаворку пра дзіцячую літаратуру, зараз у Беларусі рыхтуюцца да выдання беларускія пераклады кніг «Леў, вядзьмарка і гардэроб» Клайва С. Льюіса, «Караліна» Ніла Геймана і «Аліса ў Краіне цудаў» Льюіса Кэрала.

**— Якія перспектывы супрацоўніцтва ў культурным кірунку? Ці ёсць цікавыя новыя ідэі і праекты, здольныя зрабіць нашы народы больш адкрытымі адзін аднаму?**

— Я думаю, што на гэты момант для нас XXIV Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш з'яўляецца самай важнай падзеяй, хоць, як я ўжо сказала, я не лічу гэта культурным супрацоўніцтвам. Мне здаецца, што культурны абмен адбываецца сам па сабе. Мы павінны засяродзіць нашыя абмежаваныя чалавечыя і фінансавыя рэсурсы на іншых прыярытэтах. Я думаю, што людзі становяцца адкрытымі адзін да аднаго тым больш, чым больш яны падарожнічаюць, чытаюць і слухаюць. Я думаю, што ўсё, што робіць нашае пасольства, нейкім чынам спрыяе пашырэнню гарызонтаў жыхароў Беларусі. Я, вядома, спадзяюся, што ў якасці пасла буду дапамагаць брытанцам больш даведвацца пра Беларусь, і наадварот. Спадзяюся, што абедзве нашыя краіны будуць бачыць адна адну ў якасці партнёраў у будучыні.

**Сёння мы прапануем вашай увазе ўрывак з казкі Льюіса Кэрала *«Through the Looking-Glass, and What Alice Found There»* — «Скрозь люстэрка, і Што ўбачыла там Аліса» ў перакладзе Веры Бурлак. Спадарыня Вера (Джэці) — пісьменніца з пазнавальным імем, майстар слоўных гульняў, перакладае з англійскай, украінскай, рускай моў. Праца над перакладам «Скрозь люстэрка...» ішла больш як год. Аднойчы Вера Бурлак нават знішчыла чарнавы варыянт работы, каб зрабіць усё наноў. Яна захавала аўтарскую арыгінальнасць, імкнучыся быць як мага бліжэй да Кэрала ў гульнях са словамі. Неўзабаве выдавецтва «Галіяфы» прэзентуе кнігу «Скрозь люстэрка, і Што ўбачыла там Аліса» — першы «кніжны» пераклад «Алісы» на беларускую мову.**

# «Скрозь люстэрка, і Што ўбачыла там Аліса»

***(пераклад Веры Бурлак)***

## Урывак

Яны стаялі пад дрэвам абняўшыся, і Аліса адразу ж зразумела, хто з іх хто, бо ў аднаго на каўнерыку было вышыта «…та-та», а ў другога — «…ля-ля». «Напэўна, “гу-...” у іх таксама ёсць, толькі яго бачна са спіны», — падумала Аліса.

Яны стаялі нерухома, і Аліса нават забылася, што яны жывыя, і хацела абысці іх, каб пабачыць, ці ёсць у іх ззаду на каўнерыках «гу-…». Таму яна ўздрыгнула ад голасу таго, хто быў падпісаны як «…та-та».

— Ты, мабыць, прымаеш нас за васковыя фігуры? — спытаў ён. — Тады плаці грошы. Васковыя фігуры робяцца не для таго, каб на іх глядзелі бясплатна! Ніякім чынам!

— І нават наадварот, — дадаў той, хто быў пазначаны як «…ля-ля», — а калі ты думаеш, што мы жывыя, то чаму маўчыш?

— Вядома ж, вы жывыя! Вельмі прашу мяне прабачыць! — толькі і здолела вымавіць Аліса, бо ў яе ў галаве, нібы цікание гадзінніка, закруціліся словы старой песенькі, і Аліса ледзьве стрымалася, каб не праспяваць яе ўголас:

*Раз Гу-ля-ля і Гу-та-та*
*распачалі вайнушку,*
*бо Гу-та-та ў Гу-ля-ля*
*раструшчыў бразгатушку.*

*Але груган зляцеў з гары —*
*і каркнуў ім па карку!*
*І з жаху гора-ваяры*
*забыліся на сварку!*

— Я ведаю, пра што ты думаеш, — сказаў Гу-та-та. — Але гэта не так. Ніякім чынам!

— І нават наадварот, — дадаў Гу-ля-ля, — калі б так было, так і павінна было быць, і калі так і было, то так і было. Але гэтага не было, а значыць, і быць не павінна. Логіка тут жалезная.

— Я думала пра тое, — вельмі ветліва сказала Аліса, — як хутчэй выйсці з лесу: бо бярэцца на цемру. Вы мне не падкажаце?

Але малыя таўстуны толькі зірнулі адзін на аднаго і ўсміхнуліся.

Яны так нагадвалі парачку школьнікаў, што Аліса не ўтрывала і, паказаўшы пальцам на Гу-та-та, сказала:

— Адказвай ты!

— Ніякім чынам! — жвава выгукнуў Гу-та-та і адразу ж зашчоўкнуў рот.

— А ты! — Аліса паказала на Гу-ля-ля. Яна была ўпэўнена, што пачуе:

— І нават наадварот! — і так яно і здарылася.

— Усё няправільна! — закрычаў Гу-та-та. — Пры сустрэчы трэба сказаць «Дабрыдзень» і паціснуць адно аднаму рукі!

І браты абняліся, выцягнуўшы свабодныя рукі, каб Аліса іх паціснула.

Аліса не хацела аддаваць камусьці перавагу, бо баялася пакрыўдзіць другога, таму паціснула рукі абодвум адразу — і праз хвіліну ў іх ужо атрымаўся карагод. Выглядала гэта досыць натуральна (як потым узгадвала Аліса), і яе нават не здзівіла, што зайграла музыка — яна быццам сыходзіла з дрэва, пад якім



Ілюстрацыі Кацярыны Дубовік.

наладзіліся танцы. Само дрэва складалася (наколькі яно ўвогуле магло складацца) з галінаў, што судакраналіся як струны і смыкі.

— Але сапраўдная весялосць пачалася, калі я заспявала «Карагод, карагод…», — казала Аліса пасля, апавядаючы ўсю гэтую гісторыю сваёй сястры. — Я нават не заўважыла, як пачала спяваць, а потым неяк адчула, быццам спяваю ўжо доўга-доўга!

Але тлусценькія браты вельмі хутка стаміліся.

— Чатыры кругі запар — гэта цалкам дастаткова, — выдыхнуў Гу-та-та, і яны спыніліся гэтак жа раптоўна, як і пачалі танчыць, — і ў той самы момант змоўкла музыка.

Яны выпусцілі рукі Алісы і хвіліну проста стаялі і глядзелі на яе. Павісла даволі няёмкая паўза, бо Аліса разгубілася: як распачаць гутарку з тымі, з кім яна толькі што танчыла? «Наўрад ці ёсць сэнс казаць ім “Дабрыдзень” цяпер, — падумала яна. — Ужо занадта позна».

<...>

Раптам Аліса ўстрывожылася, бо з лесу данесліся дзіўныя гукі, быццам пыхкала вялізная паравая машына. Але гэта мог быць і які-небудзь драпежнік.

— А ці няма ў вас тут ільвоў або тыграў? — спытала Аліса насцярожана.

— Гэта храпе Чорны Кароль, — супакоіў Гу-ля-ля.

— Хадзем глядзець на яго! — выгукнулі абодва браты, узялі Алісу пад рукі і павялі яе да Караля, які спаў.

— Праўда, мілая карцінка? — сказаў Гу-та-та.

Алісе цяжка было з ім пагадзіцца. Кароль у высокім чорным начным каўпаку з кутасікам скурчыўся на зямлі — проста як куча смецця — і гучна хроп — «на адхроп галавы!» — як заўважыў Гу-та-та.

— Баюся, на мокрай траве ён схопіць прастуду, — сказала Аліса, якая была вельмі разважлівай дзяўчынкай.

— Пакуль што ён спіць, — адказаў Гу-ля-ля. — Як ты думаеш, што ён бачыць у сне?

— Гэтага ніхто не ведае, — прамовіла Аліса.

— А раптам цябе? — выгукнуў Гу-ля-ля, захоплена пляскаючы ў ладкі. — А калі ён прачнецца, то дзе ж ты, цікава, апынешся?

— Вядома ж, тут, — як і цяпер, — сказала Аліса.

— А вось і не! — грэбліва аспрэчыў Гу-ля-ля. — Цябе не будзе нідзе. Бо ты — толькі частка ягонага сну!

— Калі б Кароль прачнуўся, — дадаў Гу-та-та, — ты б растала — пуф! — як свечка!

— Ну не! — абурана закрычала Аліса. — Да таго ж, калі я — толькі частка ягонага сну, то хто такія вы, хацела б я ведаць?!

— І мы таксама! — сказаў Гу-та-та.

— Таксама! Таксама! — закрычаў Гу-ля-ля, ды так гучна, што Аліса не чула сама сябе, кажучы:

— Цішэй! Не шуміце так! Вы яго пабудзіце!

— Хто б казаў — «пабудзіце»! — перадражніў Гу-та-та. — Ты ж сама яму толькі снішся. І выдатна ведаеш, што ты несапраўдная.

— Я сапраўдная! — сказала Аліса і заплакала.

— Ад плачу сапраўднейшай не станеш, — заўважыў Гу-ля-ля. — Плакаць няма чаго.

— Калі б я была несапраўдная, — сказала Аліса (яе скрозь слёзы пачаў ужо разбіраць смех), — я б не здолела плакаць.

— Спадзяюся, ты не думаеш, што ў цябе сапраўдныя слёзы? — пагардліва перапыніў яе Гу-та-та.

«Якая бязглуздзіца! — падумала Аліса, — Яшчэ не хапала ад іх плакаць». Яна выцерла слёзы і сказала бадзёра, як магла:

— Так ці інакш, я хачу хутчэй выйсці з лесу, бо ўжо цямнее. Вам не здаецца, што хутка пачнецца дождж?

Гу-та-та раскрыў над сабой і братам вялізны парасон і зірнуў пад ім угару.

— Не думаю, — сказаў ён, — прынамсі — тут. Ніякім чынам!

— А звонку?

— Няхай сабе — калі хоча, — сказаў Гу-ля-ля. — Мы не супраць. І нават наадварот.

«Ну й сабетнікі!» — падумала Аліса і толькі хацела развітацца і пайсці, як Гу-та-та высунуўся з-пад парасона і схапіў яе за руку.

— Ты бачыш гэта? — спытаў ён, задыхаючыся ад гневу, і яго вочы ўмомант сталі вялізнымі, круглымі і жоўтымі. Дрыготкім пальцам ён паказваў на маленькі белы прадмет пад дрэвам.

— Гэта проста бразготка, — сказала Аліса, уважліва агледзела прадмет і, падумаўшы, што Гу-та-та спалохаўся, суцешыла: — Яна трошкі грыміць — але ж гэта не грымучая змяя, — а потым неабачліва дадала: — Проста бразгатушка — зусім старая і зламаная.

— Так я і думаў! — закрычаў Гу-та-та, пры гэтым ён тупаў нагамі і рваў на сабе валасы. — Вядома ж, яна сапсаваная!

Ён кінуў спапяляльны позірк на Гу-ля-ля, які адразу прысеў, спрабуючы схавацца пад парасонам.

Крануўшы Гу-та-та за руку, Аліса паспрабавала яго суцешыць:

— Не злуйцеся — гэта ж проста старая бразготка.

— Яна не старая! — закрычаў Гу-та-та, раз'юшаны яшчэ больш, чым раней. — Яна новая! Колькі табе казаць? Я купіў яе толькі ўчора! О мая цудоўная новая БРАЗГАТУШКА!

Ён ужо ажно вішчаў ад лютасці.

Увесь гэты час Гу-ля-ля намагаўся схавацца, закрыўшыся ў парасоне. Гэта выглядала так незвычайна, што Аліса ледзь не забылася на яго гняўлівага брата. Праўда, Гу-ля-ля стараўся дарэмна: урэшце парасон закрыўся і пакаціўся разам з Гу-ля-ля, толькі галава тырчала вонкі. Так ён і ляжаў, лыпаў вачыма і хапаў ротам паветра. «Не раўнуючы рыба», — падумала Аліса.

— Вядома ж, ты прымаеш выклік на бойку? — сказаў Гу-та-та, трохі супакоіўшыся.

— Мабыць, — змрочна адказаў Гу-ля-ля, выпаўзаючы з парасона. — Няхай толькі яна дапаможа нам апрануцца.

Браты, узяўшыся за рукі, пайшлі ў лес і праз хвіліну прынеслі адтуль мноства рэчаў: валікі ад канапаў, коўдры, камінныя дыванкі, абрусы, накрыўкі ад каструляў і вядзёркі для вугалю.

— Спадзяюся, ты дастаткова спрактыкаваная ў прымацоўванні і прывязванні? — спытаў Гу-та-та. — Кожная з гэтых рэчаў мусіць пратрымацца на нас усю бойку!

Аліса потым казала, што ніколі ў жыцці сваім не бачыла такой мітусні. Яны спяшаліся як на пажар, а рэчаў была процьма. І задалі ж яны клопату Алісе: тое прывяжы, гэта прышпілі… «Урэшце яны ператворацца ў вузлы са старымі анучамі!» — падумала Аліса, прымацоўваючы валік да шыі Гу-ля-ля, як ён сказаў — «каб не страціць галаву».

— Ведаеш, — дадаў ён важна, — найгоршая рэч, якая можа здарыцца ў бойцы з чалавекам, — гэта страта галавы.

Аліса гучна засмяялася, але зрабіла выгляд, што закашлялася, бо не хацела пакрыўдзіць братоў.

— Я вельмі бледны? — спытаў Гу-та-та, падыходзячы, каб надзець шлем (ён называў гэта шлемам, але хутчэй гэта была каструля).

— Ну, хіба трошкі, — мякка адказала Аліса.

— Звычайна я вельмі смелы, — працягваў ён ціха, — проста сёння ў мяне баліць галава.

— А ў мяне — зуб! — закрычаў Гу-ля-ля, які пачуў гэтае прызнанне. — Мне значна горш, чым табе!

— Дык можа лепей не біцца сёння? — спытала Аліса — яна толькі і шукала нагоды памірыць іх.

— Мы павінны пабіцца хоць трохі, але я не супраць і больш, — сказаў Гу-та-та. — Якая гадзіна?

Гу-ля-ля дастаў гадзіннік і паведаміў:

— Палова на пятую.

— Давай паб'ёмся да шостай, а потым павячэраем, — прапанаваў Гу-та-та.

— Добра, — даволі сумна пагадзіўся Гу-ля-ля. — А яна няхай глядзіць. Толькі лепей не падыходзь занадта блізка: я звычайна змятаю ўсё, што бачу — калі сапраўды раз'ятруся.

— А я — усё, да чаго дацягнуся! — закрычаў Гу-та-та. — Нават калі я гэтага не бачу!

— Значыць, ты часта трапляеш па дрэвах, — засмяялася Аліса.

Гу-та-та паглядзеў наўкола і задаволена ўсміхнуўся.

— Не думаю, — сказаў ён, — што пры канцы бойкі тут застанецца хоць адно дрэва!

— І ўсё праз нейкую бразготку! — дакарала Аліса, якая ўсё яшчэ хацела хоць трохі іх прысароміць: б'юцца праз такую дробязь!



— Я б нічога не сказаў, калі б яна не была новай, — адрэзаў Гу-та-та.

«Як тут не хапае ругана!» — падумала Аліса.

— Ведаеш, а ў нас толькі адзін меч, — сказаў Гу-та-та брату. — Але ты можаш біцца парасонам — ён даволі востры. Давай пачынаць, а то робіцца цёмна.

— І чым далей, тым цямней, — пагадзіўся Гу-ля-ля.

Пацямнела раптоўна: Аліса нават вырашыла, што на іх ідзе бура.

— Якая вялізная чорная хмара! — здзівілася яна. — І як хутка набліжаецца! Ды яшчэ і з крыламі!

— Гэта груган! — завішчаў спалоханы Гу-та-та, і абодва задалі лататы — толькі пяткі замільгалі.

Аліса адбегла ў лес і спынілася пад вялікім дрэвам. «Тут ён мяне нізашто не знойдзе, — падумала яна. — Ён завялікі: між дрэваў не праціснецца. Няхай бы не махаў так крыламі — ад гэтага ў лесе сапраўдны ўраган: вунь ужо чыйсьці шаль знесла!»



Васіль МАКАРЭВІЧ

# Лесавушка

*Апавяданне*

Калі Бог зляпіў зямлю і пачаў раскідваць па берагах азёр і рэк, абапал шляхоў і дарог, вёскі ды паселішчы, а справа падыходзіла да канца, нечакана выявілася, што без прыстанішча засталася Вераб'ёўка. Пахітаў Бог галавой і ад прыкрасці памянуў нядобрым словам д'ябла. Пачуў сваё імя нячысцік — і тут як тут, з'явіўся, таўчэцца наводдаль, аціраецца, але баіцца папасці Богу на вочы. Ведае, калі перакасціць яго Бог, пакладзе святы крыж, прападзе не за панюшку табакі, як праз зямлю праваліцца. Не, лепш пачакаць, не лезці на ражон. Схаваўся д'ябал пад корч-прытарчаку і сочыць, пазірае навокал. А Богу не дае спакою адно і тое: дзе ўціснуць і ўмасціць гэту Вераб'ёўку, што знячэўку звалілася на яго галаву? Самыя прыдатныя месцы ўжо заняты і заселены. Але ж трэба нешта рабіць. Бог павінен вырашаць любую справу на хаду, можна сказаць, імгненна, інакш бязладдзе пачнецца, свет дагары нагамі стане, наперакасяк пойдзе. І ён наўздагад торкнуў пальцам у лясную глуш, дзе цякла, бруілася нешырокая рачулка Мясрэда. А ўслед за гэтым сыпануў на яе бераг, бытта бульбу з меха, як папала, хаты, а троху наводдаль усялякія дробныя забудовы і прыбудоўкі. Учапіліся яны ў схілы равоў і касагораў, прыляпіліся, як кажаны ў падстрэшшы, сілай аддзірай — не аддзярэш, патокамі вады змывай — не змыеш! Лягла-разлеглася ўздоўж ракі Вераб'ёўка, з вуліцай, на якой без таго, каб не зачапіцца восямі, не маглі размінуцца дзве падводы. Ачомаўшыся, заварушыліся людзі, сталі выходзіць з жытла, каб зірнуць на белы свет і прыкінуць на вока, што тут і да чаго, асвойтацца і пачаць абжывацца.

Пэўна, многія зразумелі, што не ў рай трапілі. Хіба яны ведалі ці маглі здагадацца, што, як толькі Бог торкнуў пальцам у глуш і глянуў у неба, ці высока сонца, д'ябал знайшоў момант, скочыў на лапік зямлі і прабег па ім, пакідаючы заместа слядоў валуны і груды жарствы, рознага хламу і непатрэбшчыны. А па два бакі дол камяніцай узяўся, рыдлёўкай дзяўбі — не паддаецца! Але не спалохаліся вераб'ёўцы, што нішчымныя пяскі суседнічалі з прэсным падзолам, гліназёмы налазілі на жарсцвякі, балацявіны кідаліся ў абдымкі да выспаў, а на ўзбалотку раслі крывыя карлікавыя хваінкі. Гэта гультаі ды абібокі ўзнялі б вэрхал і гвалт: маўляў, якую няўдобіцу ім адвялі?! А вераб'ёўцы былі з такіх шчырыноў, што пасадзі любога на голы камень — дык ён праз тыдзень мохам абрасце. Праўда, пакуль мох ды сена стог, трэба папацець, мазоль не адзін займець, а тады ўжо ў раскошы, як сыр у малацэ, купацца, багаццем любавацца!

Нешта падобнае было і з Цыпруком, дзівакаватым дзецюком, які часта любіў сядзець у зацішку, слухаць, як сініцы цінькаюць, жаўранкі ў свісцёлкі высвістваюць, а зімой кармушкі расстаўляў, каб снегіры карміліся і не пераводзіліся са свету. Дастаўся Цыпруку пагорак-бугор, каля глыбокага рова, дзе зямля ляжала цвёрдай жарсцвяной плітой, да якой нельга было падступіцца з голымі рукамі. Але не менш цвёрды характар меў і Цыпрук. Капаніцай, жалезным нарогам варочаў ён падзол, пераціраў у пальцах кожную пясчынку і камянёк, няньчыў, як дзіцё ў калысцы, грады, спадзеючыся, што прыйдзе дзень, калі пойдзе ў рост, пачне буяць, лапушыцца гуркоўнік, ускідвацца ўгору шапкі сланечнік. Ішлі гады, перасыхала і зноў рабілася паўнаводнай Мясрэда, мяняліся гаспадары лапіка зямлі, пакуль ён не перайшоў да праўнука Цыпрука, Нупрэя, які быў леснікам. Днямі ён прападаў у лесе, лавіў парубшчыкаў, адбіраў пілы і тапары, піў на пні «міравую», беручы слова не самавольнічаць у лесе. Да зямлі яго не цягнула. Але аднаго разу капануў ён за хлевушком дол, каб паставіць слуп для агароджы, і не паверыў вачам: пад жвірам была гліна! «Эгэй, — усклікнуў Нупрэй, — вось яно, тое месца, дзе багацце хаваецца!» Вясной прывёз з лясного абходу цэлую падводу маладзенькіх яблынь-лесавушак і пасадзіў. А для іх толькі дай сугліністы пласт! Дабраліся яны карэннем да гліны і рванўліся, пацягнуліся ўгору, бытта пайшлі наперагонкі.

Нупрэй лічыўся чараўніком, і вяскоўцы ведалі, што ён мог, напрыклад, замовай вылечыць хворага ад ніжыперсціцы і скрыпу ў касцях, ад дрэннай прывычкі гаварыць самім з сабой. Умеў ён наслаць на якога-небудзь шалапута такое, што сваякі беглі да дзеда Нупрэя, каб абратаваў небараку. Не кажучы ні слова, ён чэрпаў конаўку вады, шаптаў прыхамаці і, як толькі хворы рабіў глыток, да яго вярталася такая сіла і бадзёрасць, хоць у танец было кідайся! На двары і каля двара дзеда Нупрэя таксама рабіліся цуды. Можна было пабачыць, як у гняздзе, што месцілася на высокай ліпе, бусел клекатаў, калі ў грады лезлі куры і дралі іх. А ката-катафея на спіне вазіў сабака. Зірнуў нехта за хляўчук дзеда Нупрэя — і пайшла гуляць чутка, што ў яго мяцеліца на прывязі стаіць.

— Гэта ж квецень кіпіць ды бушуе ў садзе, — казалі вяскоўцы, што прыйшлі паглядзець на дзіва. — От яблыкаў будзе ўлетку, на Спаса!

Як збаны, калыхаліся яны на галінах лесавушак, згінаючы іх у дугу. Стукнуўшыся паміж сабой ілбамі, яблыкі трэскаліся, разбіваліся, і крамяная аскома густой пенай сцякала на дол. Як загараліся вочы ў жэўжыкаў, з якой сквапнасцю зіркалі яны на яблыкі! І каб ноччу ім не ўздумалася палезці і нарабіць шкоды, Нупрэй выносіў на вуліцу цэлае рэшата яблыкаў, стаўляў на лаўку, маўляў, частуйцеся, ешце да адвалу! Прыходзілі за дваццаць і больш вёрст лёгкія на нагу маладзёны і, заліваючы сабе сокам грудзі, прагавіта, з трэскам, храбушчылі лесавушкі, здзіўлена пазіралі ў бок гаспадара і шапталі адзін аднаму, што тут без ведуноў не абышлося.



Фота Кастуся Дробава.

Прыехалі ў Вераб'ёўку і вучоныя, хадзілі па садзе, разглядвалі з усіх бакоў лесавушкі, дзівіліся, што яблыкі прасвечваліся наскрозь, стараліся зразумець, у чым тоіцца іх смаката. Дзеда яны называлі мічурынцам, а ён хмурыўся: думаў, што гэта яго новая мянушка. А калі яму сказалі, хто такі Мічурын, умомант акрыяў, павесялеў і паказаў месца, адкуль прывёз лесавушкі. Дзяцюк, якога пачціва называлі доктарам навук, развярнуў рыдлёўкай грудок зямлі, а фацэтныя кабеціны, узяўшы ў пальцы падзол, дзівіліся, што ён падобны да губной памады, нюхалі і хапаліся за насоўкі, каб апчхнуць. Дзятва хадзіла ўслед, ледзь не зазірала ім у рот, што яны скажуць пра дзедавы лесавушкі. Але вучоныя маўчалі, загадкава пераглядваючыся, і нечакана з'ехалі, прыхапіўшы шчопаць ляснога глею для лабараторыі. А дзеда Нупрэя папрасілі не адлучацца далёка ў лес, каб не давялося яго шукаць: магчыма, яму трэба будзе выправіцца ў Маскву і сустрэцца з самім Калініным.

Але нешта ў свеце перакруцілася, устала на дыбы, — ударыла маланкамі і перунамі Фінляндская вайна. Грымела яна, казалі, недзе ў тым баку, дзе за лічаныя кіламетры ціснулі і хадзілі, як на прывязі, такія маразы, што не давядзі Бог! Разам з вайной і калатнечай яны, відно, сарваліся з месца і хлынулі ва ўсе канцы свету. І неўзабаве ўжо арудавалі і ў Вераб'ёўцы. Залазілі ў шчыліны дрэў і сцены хат, напіналіся і, вухкнуўшы, шчапалі іх на дробныя друзкі і аскалабкі. Заадно выпалілі і выгрызлі азімыя, спустошылі і звэдзгалі сад. Улетку дзед Нупрэй яшчэ спадзяваўся, што лесавушкі ажывуць, на голлі праклюнуцца лісточкі. Уставаў на досвітку, ішоў у сад і мацаў рукамі дрэўцы. А яны каб хаця паварушылі галінкай. Навастрыў дзед сякеру, ляснуў, выходзячы з хаты, дзвярамі так, што з вокнаў ледзь не высыпаліся шыбы. Высек сад да апошняга дрэўца, выкарчаваў пні і, расклаўшы касцёр, спаліў. Можа, думаў, што праз год ці два зноў прывязе лесавушкі і пасадзіць сад.

Ды закруціла новая ваенная калатнеча, прайшлася па Вераб'ёўцы, прарэдзіла сем'і і людзей. Дзеда Нупрэя і трыццаць сем вяскоўцаў расстралялі нямецкія карнікі за вінтоўкі, знойдзеныя ў гумне, пад снапамі. Агалеў дзедаў двор, быльнёг заглушыў гліністы лапік зямлі, дзе раскашаваў сад. Дол тачылі і рылі краты, а ў чартапалоху спалі шалудзівыя сабакі і бяздомныя каты. Гулялі хлапчукі ў пікру — драўляны абрэзак крутнуўся і паляцеў у густую крапіву. Палезлі яны шукаць абрэзак і — дзіва дзіўнае! — пад рукамі гайдануўся дубчык. Не проста ўзрадаваліся, а ўзнялі вэрхал: маўляў, якая знаходка! Прыйшла маці, глянула на дубчык і абвяла нас святочным позіркам: гэта чаранок ад былой лесавушкі! Няхай цягнецца ўгору — прыйдзе час, і мы пасмакуем дзедавых яблыкаў! Толькі трэба пільнаваць дрэўца, каб зайцы не абглыдалі кару, а козы не аб'елі лісце. Ого, хіба мы, унукі, маглі дазволіць нейкай казе-дзеразе ці зайцу загубіць дзедаву лесавушку! Нават уначы вачэй з яе не зводзілі. Апрача гэтага, выдралі з карэннем крапіву, ускапалі і разоў колькі пералапацілі зямлю, і яна стала мяккая, як пуховая пярына. Дубчык рос не па днях, а па хвілінах. І чутка пра яго імгненна разнеслася па наваколлі. У вёсцы з'явіўся, як з неба зваліўся, дзяцюк. Хоць ён называў сябе краязнаўцам, быў па-гарадскому адзеты, у капелюшы, з павязаным гальштукам на шыі, але чымсьці нагадваў прывід. Ён папрасіў паказаць лесавушку. Дзеля гэтага трэба было пералезці цераз даволі высокія дашчатыя закладкі, зробленыя з крывых неабгабляваных цалёвак. Загадкава ўсміхнуўшыся, дзяцюк падышоў да іх, і не паспелі мы і вокам міргнуць, як ён ужо апынуўся па той бок і таптаўся каля яблынькі. Ён прысеў на зэдлік, які незразумела адкуль з'явіўся, і стаў пільна прыглядацца да камля, вадзіць па ім доўгімі кіпцюрыстымі пальцамі. Ён уставаў на стрынгаляватыя ногі, заходзіў то з аднаго, то з другога боку, нібы пазнаваў і не пазнаваў лесавушку. Вясной яна расцвіла і цяпер была абсыпана яблыкамі, і гэта вельмі занепакоіла загадкавага краязнаўца. Перад тым як сысці з падворка, ён адшукаў маці, якая палола грады, і, хаваючы бельмы, напаўголаса сказаў, што яблынька не жылец і неўзабаве загіне.

Мы агледзелі яблыньку і ўпершыню пабачылі, што ліпела яна на старым трухлявым пеньчуку, які гатоў разваліцца кожнае імгненне. Як яна вырасла на ім, цяжка сказаць. Можа, ветрыкам занесла семя пад кару, дзе яно акрыяла і пацягнулася ўгору? Можа, было троху інакш? Але хіба гэта што-небудзь мяняла? Яблынька з самага пачатку была асуджана на тое, каб загінуць. Пяньчук струхлеў і не мог трымаць дрэўца, абцяжаранае яблыкамі. Мы загналі побач трывушчы кол, прывязалі да яго лесавушку. Спачатку яна сцішылася, а потым затрапятала і зашасцела лісцямі, загаманіла з ветрыкам. Відаць, і раней дрэўца здагадвалася, што, як толькі з'явіцца першая квецень і на голлі загойдаюцца яблыкі, яно не вытрымае, упадзе долу. Але мацавалася, думала, хлусячы сабе: можа, неяк абыдзецца.

Ад нядобрага прадчування яблынька скаланулася яшчэ тады, калі пабачыла прывідную постаць дзецюка, які, назваўшыся краязнаўцам, пачаў выглядаць: дзе яна затулілася? Ён мроіўся ёй і раней, але не быў настолькі жахлівы, каб яна трэслася і калацілася. А пасля таго як днём пакруціўся каля яе і глядзеў такім позіркам, ад якога сохла і курчылася лісце, апошнімі начамі ад яго не было ратунку. Як з-пад зямлі, з'яўляўся ён паблізу, стаяў, не кратаючыся з месца, то цягнуў руку, нібы хацеў дакрануцца ці пагладзіць яе. Лесавушцы рабілася жудасна. Калі б яна мела голас, закрычала б нема і роспачна на ўвесь белы свет. Прывід пакідаў яе, расплываўся, як дым. Але ненадоўга. Ён усплываў то за спінай, то збоку, здаралася, што заглядваў нават у твар. Дні і ночы сталі млосныя і душныя. Густая пара і гарачыя туманы ахутвалі прырэчча, прыпаўзалі ў грады. Сцінала ў грудзях, не было як дыхаць. Крычалі ў сажалках, узнімалі вэрхал жабы, дралі горла драчы, абзываліся вірлавокія пугачы, вухкалі совы. Недзе за лесам мігцелі маланкі, нешта шапацела, шорхала і варочалася, не магло ўлегчыся і замоўкнуць. Яблынцы таксама не спалася і не драмалася. Але нарэшце, яна, здаецца, знемаглася і звяла вочы. Прачнулася ад грымотаў, рогату ручаёў, сполахаў бліскавіц і бог ведае яшчэ чаго. Яна здагадалася, што гэта вераб'іная ноч, калі неба трасецца разам з зямлёй, лье, царуболіць дождж так, што патокі вады коцяць каменне, карчуюць дрэвы і нясуць з сабой. Рака Мясрэда гула і клекатала і, выйшаўшы з берагоў, круціла масток, які сарвала і несла ўніз, гнучы кусты і ломячы дробны алешнік. Ударыў гром, і з такім трэскам, нібы хтосьці пераламіў старую і выпетраную на сонцы сухадрэвіну. Яблынька адчула, што губляе апірышча і сілу. Паблізу мільгануў страхатлівы твар таго, хто не даваў ёй спакою, з'яўляючыся нечакана, як з-пад зямлі.

Раніцай мы выбеглі на падворак. Божа, што нарабіла вераб'іная ноч! Ад ручаёў засталіся настолькі глыбокія разоры, што ў іх магло схавацца з галавой цяля. З даху хлеўчука вецер садраў некалькі дошак і закінуў на гарод. Побач, на высокіх частаколінах, ляжала бездапаможная яблынька. Там, дзе быў пяньчук, на якім яна расла, зеўраў глыбокі рышт. На гародзе, каля абмежка, мы знайшлі некалькі яблыкаў, якія заблыталіся ў быльнягу і траве і не скаціліся ў раку. Маці разгублена прысела на камень, зрэзаны гадамі і бліскавіцамі, і толькі і змагла вымавіць:

— Дзедава лесавушка!

Мар'ян ДУКСА



## Тытаны духу

Якіх усё ж і вытрымкі, і гарту,
якой усё ж нечалавечай моцы
былі вы, людзі колішняга старту
Айчыны нашай, вы — першапраходцы.

Хто вам падказваў смелыя намеры,
з глухога месца вас саміх скрануўшы,
каб запаліць іскрысты факел веры
і аб'яднаць раскіданыя душы?

Як ветрыкам з тутэйшай азярыны,
як шчэбетам, што выплыў
з нашай цішы,
дыхнула раптам Біблія Скарыны,
дыстанцыю да Бога скараціўшы.

І зняла неспатольна духу веліч,
у сэрца ясна кладучы адбіткі.
І ўбачыў геніяльны Багушэвіч
у роднай мове залатыя злиткі.

Неўтаймаванай рызыкі хапала
спыніць хлусню, што ўсё плыла
патопам.
І спавясціў на цэлы свет Купала,
што ёсць народ — не зборышча натоўпу.

Нас Багдановіч змог прыўзняць угору,
ён вечнасцю пазначыў нашы лёсы,
калі наш голас смутку і пакоры
накіраваў у зорныя нябёсы.

Вы наш узлёт і вы прычына руху,
на нашых сценах зыркі вы арнамент.
Вы сімвал веры і тытаны духу,
у родным доме моцны вы фундамент.

***

О слова, стань жа знакам веры,
набудзь свой арэол святы,
калі прыходзіш на паперу
і друкаваным будзеш ты.

Стань, слова, запатрабаваным,
ты для душы жаданы госць,
ці ты завешся друкаваным,
ці, можа, электронным ёсць.

Ты лечыш востры приступ болю.
Ляці — за свет спакойны я…
Відаць, не скончыцца ніколі
зямная місія твая.

***

І светлым днём не раз, і апаўночы,
спакуса, апаноўваеш мяне ты.
Як хочацца рассунуць мне аднойчы
нябачныя кулісы іншасвету —
таго, што ты ніяк не схопіш вокам,
не разумееш духам агрубелым,
таго, што, мусіць, дыхае пад бокам,
суіснуе з тваім смяротным целам.
Ён светам не з'яўляецца глядзельным,
ён сыціцца сваім уласным рухам.
Ён быў і будзе вечна паралельным.
Ён не звініць, як той камар, над вухам.
Між ім і намі хто праводзіў рысу?
Нічога мы не ведаем пра гэта.
Як хочацца патузаць за кулісы
таемнага жывога іншасвету.
Душа свавяцтва цёплага шукае,
нябачныя прайсці жадае сценкі.
Ды … нехта за кулісы не пускае,
заўжды, адразу адключае зрэнкі.

***

Ці трэба некага вучыць таропка?
Замест шматслоўя лепей памаўчу.
Найлепш своечасова ставіць кропку,
наіўным быць занудам не хачу.
Хоць некаму падкідваеш задачку,
каб не сядзеў расслаблена ў тузе.
Падсоўваеш яму зусім не жвачку,
а крэмень думкі — хай жа сам грызе.
І нашы друкаваныя паперкі
бярыце смела ў рукі вы. Але
усё-ткі вершы — гэта не цукеркі.
Ляжаць для іншай мэты на стале.

***

Памкненне не, не назавеш
сваё ты марным.
Хоць і з'яўляецца твой верш
безганарарным.
Пішы, стварай жа. А ў канцы
ёсць гонар звыклы.
Хоць і радкоў тваіх купцы
кудысьці зніклі.
Сабе, адкінуўшы дакор,
скажы адразу:
навошта ён, даўжэзны твор —
куй вершы-фразы.
А ці крыклівых строф табун
душу аздобіць?
Каб да яе дабрацца струн,
дзвюх рэплік хопіць.
Абы было ў іх вастрыё
з пякучай праўды…
Хоць, мусіць, гэта не маё —
даваць парады.

***

Ты што — з нябёсаў прыляцела?
Усе адтуль з такой сіметрыяй…
Красуня,
што ў цябе за цела —
якая ўсё-ткі геаметрыя!

Ну як суцішыць захапленне
і заглушыць свае эмоцыі?
Якія схілы-закругленні,
якія дзіўныя прапорцыі.
Трапечашся пад свежым ветрам,
ягоным подыхам атулена.
Дакладна як — да міліметра! —
ты геніяльна ўся прадумана.
Далёка да цябе маркізе
з яе прыблізнаю фігураю.
Хто над тваім карпеў эскізам,
што стаўся гэткаю скульптураю?

***

Як радасна ўсё пачыналася.
Як весела рукі спляталіся.
У зрэнках купаліся сэрцы,
выразным быў дотык бяссмерця.
Квітнела маўчанне гадзіны.
Рабілася цела адзіным.
Радніліся крылы-лятункі.
Ядналіся вусны і думкі —
плыло ў наваколлі свячэнне
ад дзіўнага іх спалучэння…
Ну хто ж спарадзіў той туман,
што выцек у самападман?
Не вырасла долі калоссе.
Хмель быў, а ў жыцці не сплялося.
Пабралася шчасце журбой,
бо нехта прамовіў:
— Адбой…

***

Твой воблік абмінаюць цені-хмары,
няма дазволу праплываць над ім.
Запанавала сонейка на твары.
Яно адно — без халадоў і зім.
Які ж ён урачысты — позірк юны,
бо кветкамі штодзённа пахне лёс.
Тваёй вясны звіняць навокал струны,
цябе анёл выглядвае з нябёс.
І б'ецца сэрца меладычна-звонка.
І шэпча хтось: «У дзіўны свет хадзем».
Як лёгка ўсё ж прачытваецца звонку
тваёй душы чароўны сад — Эдэм.

Юлія АЛЕЙЧАНКА



## Сад

Са згубленай мной крыві
Вырасце ружаў сад.
Дзе дум маіх караблі,
Дзе слёз маіх зарапад.

Там буду хадой душы,
Ў бязважкім вэлюме сноў,
Шукаць даўніх дзён крыжы,
Будуючы склеп наноў…

Купацца ў вадзе небыцця,
Расчэсваць поўні касу.
Каб зноў сысці да Жыцця,
У Дар сябе прынясу…

## Замова

Ад апошняй замеці
Да вясновай раніцы
Дажываць і кланяцца
Зорцы ўсіх сляпых.

Аддаваць напоўніцу
Ўсё, што зноў вароціцца,
Што заранкай коціцца
Ў торбу лепшых дзён.

І кідаць у полымя
Ўсе трывогі новыя,
Халады кляновыя
І паленцы страт.

Не здавацца пошасці,
Плыць лістотай лотаці
У ручай нябёс.

***

Штовечар я адрываю
старонку свайму календару
І чую, як новы дзень
гучна грукае ў шыбу,
Як новыя справы
чародкай тэпчуцца
На дыванку
прад маімі дзвярыма.

Калі рассцілаю ложак,
яны назоламі-восамі
гудуць у маіх вушах.
І нават у снах
прыходзяць прывідам
мар-спадзяванняў.

Дык мо застацца ў мінулым дні?
Няхай свецяць учарашнія зоры.
Няхай пярына будзе ласкавай.
А я — шчаслівай па-за межамі часу.

***

І мы здолеем змяніць сябе,
І, рукі працягнуўшы праз краты,
Адзін аднаго вызваліць з палону.
**М. Левін «Трансцэндэнтнасць»**

Жыць весела і лёгка,
Калі ты ёсць яшчэ
«праектам чалавека».
Калі марыцца
Пасадзіць пальму,
Пабудаваць горад,
Разбіць сотні сэрцаў,
Знайсці матылька над чароўным
шкельцам.

Невыносна цяжка робіцца,
Калі зямля ўжо стамлёна дыхае
пад нагамі.
Калі пальма ніяк не расце ў кадцы,
Горад рассыпаецца па цаглінцы,
Ды аскепкі шкельца так глыбока
ў сэрцы,
Што не бачыш танец
Запаветнага матылька.

Тады толькі і застаецца,
Што піць літрамі каву,
Папраўляць акуляры на пераноссі
Ды паўтараць як мантру:
«Уолту Дыснэю паверыў толькі
301-ы крэдытор».

Змітрок МАРОЗАЎ



***

Месік загледзеўся ў студню.
Неба як сіта…
Вёска, стамлёная буднем,
Цішай спавіта.
Пах сырадою і хлеба,
Светла пяецца, —
Знічка скацілася з неба
У самае сэрца.

## Матуля

Чысцюткі аркуш папяровы…
Жыцця пражытага сюжэт
З чаго пачаць?..
Пачну са слова,
Якое мне адкрыла свет.

За ўсё, што я набыў і маю,
За ўсё, чым дыхаю, жыву
Перад Матуляю схіляю
Сваю сівую галаву.

***

Дыктуе хтосьці мне правы,
Як жыць і паміраць…
Я ж веру: кветкам палявым,
Што ў сэрца мне глядзяць.
Спрадвечнай мудрасці травы, —
З ёй раюся ў цішы…
Я гэтай Вераю жывы,
Да незямной мяжы.

## Старая вярба

Плач вярбіны пад акном,
Побач — постаць матчына.
Астывае бацькаў дом
Без цяпла дзіцячага.
І буркуюць ля вярбы
Без ранейшай радасці
Маладосці галубы
З галубамі старасці.

***

Вось і ўсё. Апраўданняў не трэба.
Пасля золкага слова: «Бывай…»
Жураўлінымі крыламі неба
Ахінула бярозавы гай.
І зусім недарэчныя слёзы,
Калі разам пражыта жыццё…
На зламанай галінцы бярозы
Маладосці згасае лісцё.

***

Чужая душа — прыцемкі…

Цямней за ноч душа чужая,
Ды толькі ў прыцемках жыццёвых
Я ў ёй нярэдка заўважаю
Праменьчык сонейка вясновы.
Адзін праменьчык!..
Ды здаецца
Ён гэткім светлым и чароўным…
І песняй сэрца ўстрапянецца,
Што ў сне пакутвала бязмоўным.

***

«Свет адраджаецца ў крыві» —
Старая ісціна сцвярджае…
Квітней, зямля людзей, жыві,
Хай Бог цябе аберагае!

Сцяблінкай кожнаю заві
З няволі рабскае народы,
Бо не бывае на крыві
Любові, шчасця і свабоды.

# БОЛЬШ ЧЫМ ІЛЮСТРАЦЫЯ

**Цікавая, разумная кніга шукае свайго чытача… Шляхі да яго могуць быць розныя: кнігарні і выстаўкі, прэзентацыі і парады сяброў. А часам погляд спыняецца на кніжцы, якую немагчыма абмінуць: прыцягвае вокладка, хочацца пагартаць — вочы выхопліваюць адметныя ілюстрацыі, што інтрыгуюць.**



*Ілюстрацыя Паўла Татарнікава да кнігі Уладзіміра Ягоўдзіка «Сем цудаў Беларусі», 1999 г.*

Літаратурны твор у спалучэнні з адмысловым афармленнем нараджае кнігу як мастацкую з'яву. Нездарма ў межах Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу абвяшчаюць пераможцаў у конкурсе «Мастацтва кнігі». У Беларусі традыцыі гэтага мастацтва даўнія і слаўныя — можна лічыць, з часоў Скарыны, які надаваў увагу ілюстрацыям. Ды і за савецкім часам літаратары і мастакі імкнуліся знаходзіць адзін аднаго, каб атрымаўся сінтэз сэнсу. Кніжная графіка — гэта ўжо асобны кірунак творчасці, яму вучаць у Беларускай акадэміі мастацтваў. Бо, сапраўды, ёсць айчынная школа, закладзеная пакаленнямі творцаў, якім пашчасціла афармляць кнігі Купалы і Коласа, Караткевіча і Барадуліна...

Такія знакамітыя мастакі, як Георгій і Наталля Паплаўскія, Мікалай Селяшчук, Васіль Шаранговіч, Валерый Славук, Уладзімір Савіч, ды іншыя дапамагалі чытачам сфарміраваць, зразумець вобразы літаратурных герояў, якіх потым памяталі, любілі доўгія гады. З цягам часу патрабаванні да кніжнай графікі ўзрастаюць, таму і магчымасці мастакоў пашыраюцца: творцы мэтанакіравана развіваюцца, выпрацоўваюць новыя канцэпцыі ілюстравання. Наколькі іх праца запатрабаваная сёння ў айчынным кнігавыданні?

## Былое і рынак

— Я нарадзіўся ў сям'і мастакоў-кніжнікаў — Наталлі Суставай і Мікалая Казлова, таму добра памятаю розныя этапы развіцця беларускай кнігі з пункту гледжання ілюстрацыі, — распавядае мастак-графік Раман Сустаў. — У 1970 — 1980-я гады быў росквіт. Вельмі шмат вядомых мастакоў з сусветнымі імёнамі супрацоўнічалі з выдавецтвамі. Тады шмат якія нашы выдавецтвы сталі раскручанымі брэндамі, таму што прапаноўвалі выдатны прадукт, рабілі кнігу згодна з патрабаваннямі сусветнага ўзроўню на той час. Вядомы сёння ў свеце Барыс Забораў быў адным з тых мастакоў у Беларусі, хто плённа займаўся кніжнай графікай. Ці ўзгадаць Віктара Кліменку: якія шыкоўныя выданні з'яўляліся дзякуючы яму. Ды серыя «Прыгоды і фантастыка» прываблівала ілюстрацыямі — зачытваліся ўсё. З кнігай працаваў Арлен Кашкурэвіч, нават мастакі-манументалісты. Была наладжаная сістэма камунікату мастакоў з выдавецтвамі, была падтрымка дзяржавы. Цяпер часта кажуць, што ў савецкі час ішла стагнацыя культуры, але мне здаецца, што ў шмат якіх кірунках на гэты час прыпаў яе росквіт, асабліва калі казаць пра беларускую культуру. Варта ўспомніць, колькі кніг выдавалася на беларускай мове… У 1990-я, калі я вучыўся ў Акадэміі мастацтваў, з першых курсаў у студэнтаў была актыўная і практыка, і падпрацоўка: мы маглі прыходзіць у выдавецтвы і браць заказы, ад якіх адмаўляліся знакамітыя мастакі. Калі вучыліся, ведалі, навошта гэта робім, разумелі, што далей будзем працаваць над мастацкімі выданнямі.

Час цяпер іншы, але выдавецтвы засталіся, у тым ліку і тыя самыя, што захавалі свае брэнды з савецкіх часоў, ды яшчэ ўзніклі новыя. Акрамя таго, выхаваныя новыя пакаленні мастакоў, з сучасным поглядам на кнігу і яе афармленне. Здаецца, якая прастора для творчасці і новых сумесных кніжных праектаў на карысць радзіме...

— Беларускія выдавецтвы ствараюць шмат кніг, і калі ў працы знаходзяць магчымасць прыкласці свае сілы мастакі, то гэта выдатна, — працягвае Раман Сустаў. — Але можна афарміць кнігу вельмі творча, разумеючы, што гэта праца ў вялікай ступені на ідэю, яна можа быць блізкай да валанцёрства. Ганарар ёсць, але яго трэба чакаць, бывае, доўга, і атрымліваюцца грошы невялікія, калі вымяраць у суадносінах з укладзенай мастаком працай. Таму вялікае кола нашых мастакоў-графікаў працуе на замежны рынак. Зараз для творцаў адкрытыя ўсе шляхі. Выкладаюцца партфоліа на розных інтэрнэт-рэсурсах, работы ацэньваюць у Японіі, Тайвані, Амерыцы... Заказчыкі шукаюць мастакоў, якія могуць рэалізаваць іх ідэі. Прывяду прыклад, як спявачка *Madonna* для ілюстравання сваіх кніг знайшла мастакоў Генадзя Спірына з Расіі і Андрэя і Вольгу Дугіных з Украіны. Зараз фрыланс мастакам дапамагае жыць. Такім чынам у нас працуюць некаторыя выдавецтвы: шукаюць мастакоў у Пермі, Омску, Украіне, дзе сітуацыя складаная, і людзі гатовыя працаваць за зусім мінімальныя грошы.

## Патрыятызм і героі-адзіночкі

— У нас у краіне сапраўды шмат мастакоў-графікаў. Але не ўсе графікі могуць афармляць кніжкі, — лічыць Віктар Шніп, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». — У большасці няма практыкі супрацоўніцтва з дзяржаўнымі выдавецтвамі, а тут таксама ёсць свае нюансы. «Мастацкая літаратура» з радасцю будзе супрацоўнічаць з графікамі, якія ўмеюць афармляць кнігі ці маюць вялікае жаданне гэта рабіць. Няхай прыходзяць да нас і прапаноўваюць свае паслугі, прыносяць з сабой работы, каб мастакі нашага выдавецтва паглядзелі і вырашылі, якую кнігу на афармленне можна даць. Праўда, ганарары ў нас невялікія і выплачваюцца пасля 85 працэнтаў рэалізацыі кнігі.

Падобныя акалічнасці прымушаюць мастакоў шукаць прымяненне сваіх ідэй там, дзе можна рэальна зарабіць (бо ўсе ж людзі). Але нават маючы такія магчымасці, творцы гатовыя служыць радзіме і далучацца да адметных кніжных праектаў, як гэта робіць Павел Татарнікаў. Ён кажа, што айчынным выдавецтвам трэба наладжваць больш актыўную камунікацыю з мастакамі. Самі графікі разлічваюць на зацікаўленасць з боку выдавецтваў, бо аднабаковы рух у гэтай справе не дасць вынікаў:

— Калі працую з замежнымі выдавецтвамі, то персанальна кантактую з мастацкім рэдактарам, менеджарамі, дырэктарам выдавецтва. У нас, на жаль, такой практыкі няма: часцей выдавецтвы чакаюць, што аўтары павінны прыходзіць і прасіць працу. А насамрэч выдавецтвы, якія выпускаюць тавар, павінны быць зацікаўленымі ў пошуку новых аўтараў. У нас з савецкіх часоў назапашаны велізарныя фонды найцудоўнейшых кніг, але цяпер практычна нічога не перавыдаецца — з афармленнем, зробленым на новым узроўні. Я даўно не працаваў з выдавецтвамі, але калі б да мяне звярнуліся, то з задавальненнем бы дапамог, прапанаваў цікавыя праекты. Тым больш што ў мяне ёсць праекты якасных перавыданняў: кнігі не залежваліся б на паліцах.

Некаторыя айчынныя творцы лічаць, што праца будуецца на асабістых кантактах, тым больш калі за плячыма ёсць досвед.

— Кніжныя графікі запатрабаваныя заўсёды, тым больш што наша зямля багатая на беларускіх пісьменнікаў, якія стаяць у выдавецкім плане на ілюстраванне, — расказвае мастачка-графік Аксана Аракчэева. — Але з гадамі ты знаёмішся з людзьмі, і ў іх няма патрэбы шукаць цябе праз выдавецтва. Аўтары непасрэдна звяртаюцца да мастака. Гэта нашмат цікавей і больш плённа. Мне здаецца, што кожны ілюстратар у выдавецкім свеце — герой-адзіночка. Мяне пісьменнікі шукаюць самі. А маладыя мастакі, мабыць, ходзяць у выдавецтвы і прадстаўляюць свае працы.

Цяпер і студэнтам стала нашмат прасцей знайсці сабе заказы праз інтэрнэт-пляцоўку. Праўда, у выпадку з моладдзю ў заказчыкаў ёсць пэўная насцярога: ці атрымаюць якасны арт-прадукт? Часта маладым творцам замаўляюць працы для масавай аўдыторыі, але і такім чынам мастак вучыцца працаваць з выдавецтвамі, на практыцы разумее працэс стварэння кніг, што таксама важна для партфоліа: у наш час важна ўмець прапанаваць свае паслугі на працоўным рынку.

## З густам і на мове

Кніжны рынак цяпер шырокі, нават у межах краіны ёсць канкурэнцыя, якая, на жаль, не ідзе на карысць кнізе на беларускай мове. Мастакі занепакоеныя: і чытаць на роднай мове трэба, і кнігу сваю падтрымліваць, таму што яна транслюе вобразы радзімы. А ў мастакоў менавіта ў гэтым кірунку ёсць магчымасці быць больш запатрабаванымі.

— Мы пастаўлены ва ўмовы канкурэнцыі з расійскімі выдавецтвамі. Зразумела, канкурыраваць складана: Расія — вялікая краіна, там велізарны рынак, наклады непараўнальныя, — адзначае мастак-графік Павел Татарнікаў. — У нас, на жаль, сегмент кніг на беларускай мове звужаецца. Але я не перастаю паўтараць, што акрамя як беларусам беларускамоўная кніжка больш нідзе не патрэбна. Таму мы павінны паклапаціцца, каб беларуская літаратура, а разам з ёй ілюстрацыя, засталіся жыць. Нам патрэбна канкурэнцыя не паміж рынкамі, а паміж нашымі аўтарамі: калі яна будзе, выдавецтвы атрымаюць магчымасць выбіраць лепшую якасць. І калі б у нас больш дбалі пра маркетынг, то айчынным мастакам хапала б працы ў сваёй краіне.

Мастакі, што маюць досвед працы ў галіне кніжнай графікі і кнігавыдання як у нашай краіне, так і за мяжой, лічаць, што шляхі развіцця для беларускай кнігі ёсць. Раман Сустаў звяртае ўвагу на тое, што мастакі многіх краін сёння актыўна займаюцца стварэннем калекцыйных кніг, дзе прадумваецца кожная дэталь. Асабліва запатрабаваныя такія кнігі, калі яны звязаны з гістарычнай тэматыкай.

— У апошні час у свеце многія графікі зразумелі, што можна ісці такім шляхам. Ёсць цэлыя бібліяфільскія клубы, якія збіраюць калекцыйныя кнігі, — адзначае Раман Сустаў. — Да прыкладу, некалькі падобных удалых праектаў зрабіў наш гродзенскі мастак Юрый Якавенка. Гэта шыкоўныя выданні: афорт, па-старому надрукаваны тэкст, скураныя вокладкі, футляры. І такіх праектаў сёння сустракаецца ўсё больш і больш. Шмат хто ў Расіі звяртаецца да такога віду кнігі, іх робяць невялікімі накладамі — да дзесяці асобнікаў: яны стаяць на паліцах у калекцыянераў. Кошт такіх кніг досыць вялікі, але тут чалавек павінен разумець, што ён укладвае грошы ў арт-аб'ект і гадоў праз пяцьдзясят зможа прадаць яго ў разы даражэй.

Не здае свае пазіцыі ў свеце і дзіцячая літаратура. Нягледзячы на тэхнічны прагрэс, бацькі ўсё ж такі спрабуюць навучыць дзяцей кантактаваць з папяровай кнігай: дастаткова часта ў кнігарнях можна заўважыць людзей, якія шукаюць навінкі дзіцячых аўтараў альбо перавыдадзеныя дзіцячыя кніжкі з прыгожымі ілюстрацыямі, дапаможнікамі для развіцця. Дзіцячая кніга заўсёды «карміла» кніжных графікаў.



*Ілюстрацыя Рамана Сустава да твора Джуліяна Рэтбоўна «Каралі Альбіёна», 2005 г.*

— Калісьці было выдавецтва «Юнацтва», якое спецыялізавалася менавіта на дзіцячай кнізе. А больш выдавецтваў такога кірунку ў краіне няма. Без мастакоў-ілюстратараў не можа абысціся менавіта дзіцячая кніга, — адзначае Павел Татарнікаў. — Ва ўсім свеце дзіцячая кніга на ўздыме: пашыраецца рост продажаў, з'яўляюцца разнапланавыя выданні, сярод якіх забаўляльныя, адукацыйныя, навуковыя, мастацкія... У Беларусі ёсць неабходнасць зрабіць акцэнт на выданні шыкоўных і з густам афармленых кніг на роднай мове, якія, паверце, будуць запатрабаваныя.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Матэматыка кахання

**Мы ўжо прызвычаіліся атаясамліваць пачуцці з навукай: «паміж імі ўзнікла хімія», «любоўны трохкутнік». Часам гэтыя параўнанні падаюцца незразумелымі. Але калі ў правільны момант трапіць на добры ўзор, пытанняў не стае. У Беларускім маладзёжным тэатры іграюць матэматыку пачуццяў. І, як уласна матэматыку, так і гэты спектакль, можна ці любіць, ці ненавідзець.**

### АДНІМАЦЬ 2-1

*«Dreamworks»* Івана Вырыпаева паставілі ўжо ў некалькіх тэатрах. Напрыклад, акрамя Беларусі, спектакль ішоў у МХТ імя Чэхава ў Расіі і ў адным з вільнюскіх тэатраў. У мінскім тэатры спектакль паставіў вядомы беларускі драматург Дзмітрый Багаслаўскі. Паўсюль назву інтэрпрэтуюць па-рознаму: і «Фабрыка мрой», і «Мара здзяйсняецца». Англамоўная назва «*Dreamworks*» дае такую магчымасць. У нашым тэатры эксперыментаў не рабілі. Цяжкасці перакладу тут могуць стаць вырашальнымі: глядач сам для сябе вызначыць, што ж гэта такое.

Вакол — эфемернае. Чамусьці ў звычайным жыцці яно не заўважаецца. Шэраг праблем, праз якія мы праходзім, не пакідае часу думаць ні пра высокае, ні пра прыгожае, ні пра важнае. Для гэтага чалавеку трэба застацца сам-насам. Бывае, што яму гэта вельмі патрэбна. Бывае, што для гэтага трэба адняць у яго іншага чалавека. Матэматыка тут працуе бездакорна: мінус чалавек, але плюс час для думак. Дэвід страціў сваю жонку Мэрыл. Яму зараз так дрэнна, вы б ведалі!

Іван Вырыпаеў закранае ў сваёй п'есе праблемы вечныя: драматычныя, безумоўна, важныя, абавязкова трагічныя. Трагедыя падштурхоўвае чалавека не толькі да думак, але і да ўчынкаў. Сёння нам патрэбная менавіта трагедыя, каб пачаць дзейнічаць. Вырыпаеў наогул любіць трагічнасці: варта ўзгадаць «Кісларод», «Адчуваць» (адна з навел у фільме «Кароткае замыканне»), «Танец Дэлі». Драма ідзе поруч з аўтарам на працягу яго творчасці. Гэтая тэма блізкая і Дзмітрыю Багаслаўскаму. У пастаноўках паводле яго п'ес «Каханне людзей», «Ціхі шолах сыходзячых крокаў» ці рэжысёрскай рабоце «Саша, вынесі смецце» абавязкова ёсць штосьці смяротнае. Ці хаця б паранармальнае. Не абмінула гэта і «*Dreamworks*».

Гэта не драма. Драмай спектакль пачынаецца. Але чым далей заходзіць Вырыпаеў, чым далей ідуць акцёры, тым больш абсурдным і ненатуральным падаецца ўсё тое, што адбываецца на сцэне. У гэтым сумняваешся, а потым і зусім не верыш. Але хто сказаў, што верыць трэба? Хіба гледачу не хапае жыцця? Але пастаноўшчык адняў у гледача адну важную рэч — спагаду. Героям не спачуваеш. Зусім. Як у галівудскім фільме.



*Сцэна са спектакля «Dreamworks» БДМТ (рэж. Д. Багаслаўскі).*

### СКЛАДАЦЬ 1+1

Але менавіта галівудскім фільмам «*Dreamworks*» і з'яўляецца. Гэта падзагаловак спектакля. І Багаслаўскі яшчэ больш гэта знарок падкрэслівае. Дададзецца сюды і акцёрская ігра, і прапісаныя дыялогі, і кінематаграфічныя ўчынкі персанажаў. Акрамя таго, героі — амерыканцы. А што яшчэ для нас можа быць больш невядомым, казачным, ненатуральным, чым тыя, хто жыве за акіянам?

Дэвід (Андрэй Бібікаў) уважліва слухае тое, што кажа яго жонка Мэрыл (Марыя Блінова). Яна вельмі прыгожая: гэта бачна нават пад цюрбанам, пад якім хаваюцца белыя валасы. Апранутая нібы анёл: загорнутая ў тканіны, якія быццам лётаюць у паветры. Мэрыл распавядае пра смерць, якой вельмі баіцца. Не, не сваю, канечне. Смерць Дэвіда. Бо як пасля жыць без каханага чалавека, з якім звязваюць сотні ўспамінаў? Але страх дарэмны: мёртвы чалавек у гэтым спектаклі пакуль толькі адзін. І гэта Мэрыл.

Пасля смерці чалавека застаецца толькі класці на паліцу ўспаміны. Сумесныя фота, відэа. Не стае, на жаль, банальнай утульнасці. На звыклым месцы для абутку цяпер толькі адна пара. Але Дэвід не хоча мірыцца з абставінамі. Наіўны: быццам хтосьці можа падмануць смерць. Адзіным прытулкам для мужчыны застаецца іх сумесны з Мэрыл дом — Дэвід яго не пакідае, бо тут той самы «партал», праз які ён гаворыць з нябожчыцай-жонкай.

Ужо ў дзверы іншага «партала» грукаюцца сябры — ратавальнікі ад дэпрэсіі і самоты. Вясёлыя, канечне ж. Яшчэ і будысты. Думаюць, што змогуць дапамагчы, калі Дэвід дазволіць ім увайсці не толькі ў яго дзверы, але і ў сваё сэрца. Мэрыл сваім рашучым (і важным для мужа) голасам запэўнівае Дэвіда ў тым, што яны і сапраўды змогуць...

Тонкія межы Дэвідавых пачуццяў застаюцца недасягальнымі. Амерыканская адзінота бярэ верх над забавамі — будысцкімі, рэчыўнымі, п'янымі. Герой Вырыпаева — чалавек, які трымае боль унутры сябе, але вечна гэта рабіць немагчыма: боль лютасцю выходзіць вонкі. Здавалася б, усё зможа змяніць яшчэ адна пара абутку. Але і тая бязлітасна выкідаецца за дзверы. Любоў да адзіноты, да самакатавання, да пакутаў праглынае героя «*Dreamworks*». Пра якія мары тут наогул можа ісці размова? Мёртвых хутка не забудзеш.

### ПАМНАЖАЦЬ 1×2

Персанажы спектакля — людзі аднachасова моцныя, гатовыя да барацьбы з навакольнем, з абставінамі. Але яны і неверагодна слабыя. Сур'ёзныя праблемы не вырашаюць, а топяць у алкаголі, фізічную расправу з ворагам яны выбіраюць замест псіхалагічнай. Тэдзі, Фрэнк, Салі, Макс, Бэці — гэтыя людзі не гатовыя да сур'ёзнага жыцця: яны гуляюць і з пачуццямі, і з лёсам. Чаму такія сябры могуць навучыць Дэвіда? Хіба толькі Лама Джон. Ён жа будысцкі манах: але ці вера зараз дапаможа Дэвіду?

У спектаклі смутак памнажаецца на смутак, боль на боль, каханне на каханне. Усяго тут вельмі многа, часам зашмат. Яшчэ горш становіцца, калі Мэрыл памнажаецца на Мэрыл. У жыцці Дэвіда з'яўляецца Элізабэт (Кацярына Раманнікава): «пастаўка» ад прадбачлівых сяброў. Не знаходзячы іншага шляху дапамогі, яны вырашаюць, што Дэвіду проста не хапае яшчэ адной пары абутку, якую Элізабэт зможа яму даць.

І нешта ідзе не так: яе словы становяцца словамі Мэрыл, яе думкі становяцца думкамі нябожчыцы. Але замена чалавека — справа не тое што складаная, але немагчымая. Пра гэта сябры не падумалі. Не падумала і сама Мэрыл — гэта ж яна знайшла Дэвіду новую жанчыну! Доўга выбірала, вучыла яе сваёй жаночай мудрасці. Няўжо сама Мэрыл не разумее, што аб заменах людзей не можа ісці ніякай гаворкі? Вашыя ўспаміны застаюцца вашымі, тое ж самае са звычкамі, абуткам каля дзвярэй, відэа з паездак.

Калі з Дэвідам усё больш-менш зразумела, то яго сябры не могуць выратавацца са сваіх адносінавых «ям». Пяшчаныя замкі адносінаў гэтых людзей ператвараюцца ў выспы, залітыя вадой. Нядзольныя дапамагчы нават сабе, яны спрабавалі палепшыць жыццё ўдаўца. Не самае мудрае рашэнне для людзей, у якіх усё ідзе пад адхон, а вінавацяць у гэтым толькі абставіны.

### ДЗЯЛІЦЬ 2:0

У назве спектакля ёсць слова «мары». Але ў сюжэце гэтых мараў няма. Толькі ў кантэксце іх руйнавання. Мэрыл пры жыцці гаварыла, што «мары — гэта нашая праца, якую мы, чаго б гэта ні каштавала, павінны рабіць добра». Гэты гімн выкарыстоўваюць усе героі спектакля, але не кожны — на добрае. Хтосьці — нават на забойствы. Марамі для персанажаў «*Dreamworks*» становяцца нізкія жаданні, праблемы, якія можна вырашыць за хвіліну. Тым больш што свае праблемы героі лёгка дзеляць адзін з адным. Адзіная нявырашаная праблема Дэвіда — вярнуць Мэрыл. На працягу ўсіх амаль 3 гадзін спектакля.

Калі ён разумее нарэшце, што трэба жыць далей, спрабуе замяніць Мэрыл на Элізабэт, у яго нічога не атрымліваецца. Новае каханне быццам раствараецца ў паветры. Паветра на сцэне наогул шмат: тут многа белага, светлага. Шмат святла. Гэтая пластыкавасць сцэнічнага дома Дэвіда і Мэрыл не можа вызваліць ад пачуцця ненатуральнасці. Свежасць, чыстыя эмоцыі прыходзяць тады, калі героі выходзяць на свежае паветра: сядзяць на траве з запаленымі ліхтарыкамі. З'яўляецца адчуванне «правільнасці жыцця», таго, што ўсё, што адбываецца на сцэне, магло б быць сапраўднай гісторыяй. І ніяк не амерыканскай, а вельмі беларускай. Бо праблемы кахання, смерці і сяброўства датычацца кожнага з нас. Пра гэта ж нагадваюць і саўндтрэкі — кранальныя і вельмі трапна падабраныя.

Пра тое, што гісторыя замежная, тут не нагадвае амаль нічога — толькі імёны і паліцэйская форма. У астатнім жа рэаліі, пра якія распавёў Вырыпаеў і якія падкрэсліў Багаслаўскі, засталіся вельмі блізкімі нам. Калі і можна перакласці назву спектакля, то наўрад ці трэба тут нешта вынаходзіць. Калі не шукаць пataемных сэнсаў, не спрабаваць гуляць са словамі, то застануцца толькі «мара» і «праца». Формула беларускага надзённага жыцця.

І варта падзякаваць рэжысёру хаця б за тое, што прымусіў узгадаць матэматыку: бессмяротныя правіла, якое расказвалі на ўроках, працягвае дзейнічаць. Дзяліць на нуль нельга. Асабліва калі справа датычная двух людзей, аднаго з якіх ужо няма.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Душа казкі

**20 гадоў таму рэпертуар Вялікага тэатра Беларусі папоўніўся незвычайнай казкай. Спектакль для дзяцей і дарослых — опера «Чароўная музыка» — выдатная нагода правесці лютаўскія дні з карысцю і зразумець, што ж такое музыка і ці можа яна змяніць свет.**

Калісьці ролі ў гэтым прадстаўленні выконвалі артысты Дзіцячага тэатра-студыі — тады яны былі дзецьмі. Зараз яны таксама прыходзяць на спектакль, але ўжо як гледачы — каб навучыцца чуць музыку.

Добрую і павучальную гісторыю пра тое, як навакольле змяняецца цудоўным чынам дзякуючы музыцы, прапанавала Галіна Галкоўская: гэта была яе першая опера, пастаўленая ў якасці рэжысёра-пастаноўшчыка ў Вялікім тэатры Беларусі.

Казка не была б створаная, каб не Сяргей Картэс, — менавіта гэты беларускі кампазітар прапанаваў Галкоўскай паставіць спектакль для дзяцей. Рэжысёр доўга працавала з матэрыялам, выбірала і нарэшце знайшла камічную оперу Марка Мінкова, напісаную ім для маскоўскага Дзіцячага музычнага тэатра. Хутка музыка была напоўнена яркімі цытатамі з іншых опер: у «Чароўнай музыцы» можна пачуць творы Расіні, Штрауса, Даніцэці, Моцарта.

Праца над спектаклем выдалася насычанай, але цяжкай: рэжысёр Галіна Галкоўская адзначала, што ставіць казку-оперу — значыць «рабіць яе жывой, насычанай сцэнічным дзеяннем, танцамі, дыялогамі, прыёмамі». Знайсці баланс паміж статычным і дынамічным у пастаноўшчыка атрымалася: маленькія гледачы суперажывалі і працягваюць суперажываць таму, што адбываецца на сцэне. Героі спектакля — маленькія музыканты Дзінь і Бом трапляюць у складаныя сітуацыі, а гледачы сапраўды адчуваюць не толькі эмацыйную сувязь з героямі, але і робяць за іх уласны ўнутраны выбар. Музыка, як і прыгажосць, ратуе свет. Упэўніцца ў гэтым можна на юбілейным паказе казачнай оперы Марка Мінкова «Чароўная музыка».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Мы не згубіліся

## Пра час — у мабільных фільмах

***Мабільны тэлефон сёння — не-шта нашмат большае за сродак сувязі. Летась пачаўся бум на здымкі кліпаў на тэлефоны. Але рэжысёры ведалі пра магчымасці мабільнікаў яшчэ раней: фільмы, знятыя на тэлефон, сёння вабяць усё большую колькасць аматараў кінематографа.***

Любоў да мабільных здымак у Беларусі не толькі вітаецца, але і заахвочваецца. Фестываль мабільнага кіно *velcom Smartfilm* ладзіўся ў нашай краіне ўжо ў пяты раз. Сёлета — у новым фармаце: цяпер дасылаць свае працы на конкурс могуць кінематаграфісты з любой краіны свету. Так і сталася: 273 стужкі з 48 дзяржаў, але ў фінал прайшлі толькі 10. Вельмі прыемна, што 4 з іх — беларускія. Гэта сведчыць пра тое, што цікавасць да кіно ў беларусаў ёсць, хоць часам яна падаецца нябачнай.

Стужкі, якія трапілі ў фінал, зроблены даволі прафесійна. Часам нават цяжка было зразумець, як такое кіно можна зняць на тэлефон: тут і мультыэкспазіцыя, і неверагодная праца са святлом. Рэжысёрскія задумы выліваліся ў паўнавартасныя фільмы. Самым складаным для кінематаграфістаў было змясціць ідэю ў маленькую 5 — 10-хвілінную стужку.

Але не будзе перабольшваннем сказаць, што кожны з рэжысёраў задачу выканаў. Прычым арыгінальна. Напрыклад, фільм «*Into the light*» французскага кінематаграфіста Мір'ям Фантэн распавёў пра жыццё звычайных лямпачак. Што адбываецца з гледачом, які глядзіць на тое, як запальваецца і выключаецца святло? Што незвычайнага ў гэтым для сучаснага чалавека? Але рэжысёр у стужцы паказаў не існаванне, а жыццё святла: якім яно можа быць, якімі колерамі можа фарбаваць нашу рэальнасць, як уплывае не толькі на цемру, але і на чалавечы настрой.

Акцёры фільма «Умзарозум» убачылі сцэнарый непасрэдна на здымках — героі, можна сказаць, імправізавалі. Мабільнае кіно павінна быць мабільным ва ўсіх сэнсах — стужку знялі на 2 тэлефоны, сцэнарый дапісаць не паспелі, а фінал фільма прыдумвалі ўсёй здымачнай групай ужо падчас працы. Антон Байдзёнак вучыцца на дызайнера-праграміста, з кіно амаль не звязаны. Але хіба гэта можа перашкодзіць на шляху да перамогі? Маладых беларускіх рэжысёраў вабяць сапраўды цікавыя тэмы. Хлопец у сваім кіно закрануў праблему розуму і вар'яцтва: што будзе, калі вар'ята вылечыць? А што будзе, калі вар'ят стане разумнейшым за ўрача? А што будзе, калі вылечыць усіх вар'ятаў у свеце? Не ведаю. Але фільм — моцны роздум маладога рэжысёра на вельмі дарослую тэму, што і прынесла яму нечаканую перамогу.

Усходнія праблемы сёння перастаюць быць для нас чужымі. Людзі паўсюль аднолькавыя, і праблемы ў іх таксама адны на ўсіх. Волкан Гюнэй Экер зняў кіно-прысвячэнне жанчыне «Шкілет». Для Турцыі, як і наогул для краін Усходу, пытанне роўнасці мужчыны і жанчыны — надзённае. Бясконцая барацьба за правы, вечныя доказы, што адрозненняў паміж жанчынай і мужчынай амаль няма. Стужка Экера перамагла на шэрагу фестываляў, і зразумела, чаму: навошта нешта даказваць, навошта вынаходзіць ровар, калі за ўсё адкажа шкілет, які ў кожнага аднолькавы.

Інтрыга *Smartfilm:* каму дастанецца Гран-пры фестывалю. Нельга вызначыць, ці была перамога для Кірыла Нонга нечаканай (хлопец, дарэчы, скончыў Нью-Ёркскую кінаакадэмію), але заслужанай — дакладна. Актуальнасць тэмы, пра якую гаварыў на кінамове з гледачом рэжысёр, пацверджана і ў СМІ: дзесьці за тыдзень да фіналу фестывалю ў сетках з'явіліся навіны, згодна з якімі робаты адбяруць працу ў пэўнай колькасці людзей. Кірыл Нонг смела паразважаў на гэтую тэму. Кіно «Работнік года», знятае ім на мабільны тэлефон, здзіўляе не толькі прыгожай карцінкай, не толькі выдатнай акцёрскай ігрой, але і падыходам да раскрыцця тэмы: чалавек, які прыходзіць шлях ад маладога, моцнага хлопца з працай да такога ж маладога, але ўжо абяздоленага беспрацоўнага. Варта адзначыць, што стужка Нонга атрымалася сапраўды беларускай: здымалі ў Парку высокіх тэхналогій, а саўндтрэк напісала наша артыстка *Mustelide*.

Беларускія рэжысёры, якія не сталі пераможцамі, але трапілі ў спіс фіналістаў, таксама разважалі пра важнае: КацярынаНіканові ч са стужкай «Памятаць» нагадала, наколькі важна захоўваць успаміны пра блізкіх, наколькі важна захоўваць рэчы. У дзяўчыны атрымалася цёплая стужка пра любоў, пяшчоту і павагу. Фільм Дзмітрыя Сахарука «137 гадзін» здымаўся сёлетняй зімой — і што тут такога? А тое, што здымкі праходзілі ў закінутым доме, а актрыса, якая па сцэнарыі павінна была дрыжаць ад холаду, нават не іграла. Тэматычна стужка прасякнута роздумамі аб сучасным пакаленні, якое залежыць ад сацыяльных сетак да такой ступені, што нават каханы чалавек адыходзіць на другі план. Дарэчы, усе стужкі можна паглядзець на сайце фестывалю мабільнага кіно.

Тыя, хто хоча здымаць кіно, не губляюць цікавасці да жыцця, але больш важна, што яны не губляюць надзеі: на тое, што іх фільмы могуць ўсхваляваць гледача, што яны могуць заінтрыгаваць прафесійных крытыкаў і рэжысёраў, могуць закрануць тэмы, якія сёння абавязкова павінны быць закранутыя. І добра, што ў нас ёсць мабільнае кіно: кожнаму, хто хоча наблізіцца да экраннага мастацтва, мае патрэбу выказацца, варта мець дзве рэчы: мабільны тэлефон і ідэю. Выдатна, што такія аматары ў нашай краіне ёсць.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**


Кадр з фільма «Работнік года» (рэж. К. Нонг).

# Маладосць і радасць?

## Як глядзяць на свет будучыя рэжысёры

***Кіно судзяць праз меркаванні аб кінематаграфістах. Пераважна аб тых, хто ўжо паспеў пра сябе заявіць. Пра Сербію мы ведаем па фільмах Кустурыцы, пра Паўднёвую Карэю — па стужках Пак Чхан-ука. А пра Беларусь? Пра тое, якой яна была, мы ведаем па фільмах Пташука, Турава, Рубінчыка. Але што ведаем (бачым у кіно) пра тое, якая яна зараз?***

### Нафантазіравалі

Адказаў на гэтае пытанне можна атрымаць даволі шмат. Як мінімум восем. Гэта фільмы, якія знялі рэжысёры — сёлетнія выпускнікі Акадэміі мастацтваў. На экзаменацыйным паказе ў невялікай аўдыторыі людзей было шмат — некаторыя гледачы цярпліва чакалі на калідоры, каб з'явіцца хоць нейкае месца. Словам, аншлаг, і даволі зразумелы: паглядзець беларускія камеды, трылеры, меладрамы і фантастыку давядзецца не кожны дзень.

Маладым рэжысёрам аднолькава падабаецца размаўляць з гледачом і пра рэальнае, і пра выдуманае. Часам кінематаграфісты ператвараюць рэаліі жыцця ў камедыю ці трылер — дадаюць дробку цукру туды, дзе гэта патрэбна, тое ж самае і з перцам. Але за ўсімі гэтымі дадаткамі, дабаўкамі, дадумкамі сапраўднае жыццё не схаваеш: праблемы застаюцца праблемамі, памяць застаецца памяццю.

Пазбавіцца жыццёвасці гісторыі можна толькі адзіным спосабам: зняць нешта фантастычнае. Постапакаліптычны свет паказала ў кароткаметражцы «Пасланне старадаўніх» рэжысёр Алеся Фіневіч-Сакура. Тут і марсіянскія паўстанцы, і пейзажы пасля канца свету. Фільм пакуль не гатовы цалкам, але сюжэт захапляльны (быццам беларуская сумесь "Зорных войнаў" і «Шалёнага Макса»): вынаходнік Ян стварыў машыну часу, з чаго і пачаліся ўсе праблемы. Канечне, фантастычнае кіно не можа абысціся без кахання, таму глядач убачыць не толькі падарожжы па будучым, але і постапакаліптычную гісторыю кахання.

### Каханне і крымінал

Але ўсё ж больш рэжысёрам падабаецца вывучаць рэальнасць, жорсткую і непрадказальную. Пра тое, як лёгка можна зрабіць крок да злачынства, распавядае «Контрапунктура» Арцемія Калініна. Вось такое можа адбыцца сапраўды з кожным: някемлівы злачынец паспрабуе адабраць гаманец ці тэлефон. Гіпертрафіраваныя выразы твару, зімовыя мінскія ўскрайкі, бедныя студэнты, у якіх нават скрасці няма чаго! «Контрапунктура» адсылае гледача да «Бандыцкага Пецярбурга». Але хуліганы тут няўдалыя, і часам самі аказваюцца на месцы ахвяры: не ведаеш, смяяцца над стужкай ці плакаць.

Менавіта такое ж адчуванне пакідае кіно «*Hasta la vista, baby*» Андрэя Кашперскага. Пачынаецца меладраматычна, але з ноткамі крыміналу: глядач заўважае нешта таямнічае, прадчувае штосьці дрэннае. Усё сапраўды адбываецца прадказальна, але ад гэтага не менш жудасна: неверагодна пяшчотная гісторыя кахання ператвараецца ў «Маўчанне ягнят». Калі спытаюць, пра што кіно, можна адказаць адным сказам: пра тое, як нельга рабіць прапанову рукі і сэрца сваёй дзяўчыне. У галоўнай ролі, дарэчы, знялася Нэла Васілеўская.


Кадр з фільма «Вова» (рэж. К. Ярохін).

Пазней дзяўчына прадставіла і свой фільм «Сябры па перапісцы». Яна працавала ў новым для сябе жанры меладрамы, і атрымалася выдатна! Тэму Нэла выбрала зноў жа актуальную: каханне ў інтэрнэце. Па-першае, стужка атрымалася свайго роду одай Мінску: размаляваны тралейбус, знаёмыя скрыжаванні, песні беларускага артыста Макса Каржа пра сталіцу. Па-другое, кіно атрымалася глыбокім: ці зможа інтэрнэт-каханне стаць рэальным?

Колькі б ні знялі стужак пра любоў, нам будзе мала. Напэўна, так падумаў і Арсеній Ільіных і зняў «Юбілей». Больш за ўсё і любоў, і ўвага патрэбная зараз нашым бацькам, бабулям. У Васільеўны юбілей — 75-годдзе, таму жанчына чакае дзяцей. Жыве яна ў тыповай беларускай вёсцы: пра гэта нагадваюць самотныя аўтобусы, пасылкі з лагатыпам «Белпошты» і... менталітэт вяскоўцаў. Галоўная тэма для абмеркавання сярод жыхароў — ці прыедуць на юбілей родныя Васільеўны. Змучаная ад падрыхтоўкі да свята, жанчына сядае за стол адна. На пеляне — котка. Ці прыедуць тыя, каго яна любіць, даведаецеся з фільма. Дарэчы, ён вельмі моцна нагадвае сёлетнюю рэкламу аднаго нямецкага супермаркета: часам складваецца ўражанне, што менавіта адтуль рэжысёр і пазычыў ідэю.

### Чалавечыя гісторыі

Фільмы-прысвячэнні — асобная тэма. Як зрабіць кіно пра чалавека, якога ўжо няма, цікавым і сучасным? Адказ на гэтае пытанне дакладна ведае Ігар Васільеў. Менавіта такім адказам з'яўляецца яго кіно «Апошні шанец». Ідэю для фільма кінематаграфіст узяў з апавядання Паула Іванова «Конік». Кіно, якое навучыць выхаванню характару, павазе да чалавека і яго працы, нават смеласці, а перш за ўсё — веры. Рэжысёр прысвяціў стужку алімпійскаму чэмпіёну па конным спорце Сяргею Рагожыну, які трагічна загінуў у маладым узросце, і яго настаўніку, асоба якога ў фільме раскрыта надзвычай шчыра.

З васьмі стужак дзве былі поўнаметражнымі. Першая — «*Party-zan* фільм», адным з рэжысёраў якой з'яўляецца студэнт Акадэміі мастацтваў Сяргей Дзмітрэнка. Пра гэтае кіно пісалі шмат, гаварылі таксама. Але галоўнае дасягненне — стужку паказвалі ў кінатэатры. Неверагодны падарунак для рэжысёра, які яшчэ вучыцца ў акадэміі.

Другі поўнаметражны фільм — «Вова» Кірыла Ярохіна, які здымаўся больш за 3 гады. Гісторыю самотнага школьніка Вовы рэжысёр паказвае праз прызму школьных урокаў і нечаканых знаёмстваў, праз колеры вачэй і выраб скульптур, праз кубкі з гарбатай, выпітыя разам з дзяўчынай з рудымі валасамі.

Сучасная Беларусь у кіно — якая яна? Жартаўлівая, часам самотная, бывае, што і жорсткая. Але заўсёды ахутана любоўю з усіх бакоў. Беларусь у кіно маладых — поўная сіл і радасная. Пад слаямі фантастыкі, адзіноцтва і нават журботы гэта ўсё ж можна разглядзець. Ці будзе ў рэжысёраў магчымасць раскрываць сябе далей?

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

Ларыса СІМАКОВІЧ, кампазітар

# …Як мы без Шырмы?

**На сваёй струне**



***Не дацъ загаснуць полымю — рэдкі дар. Агонь у печы, які спатрэбіцца толькі зімняй сцюжай, нехта павінен без перапынку падтрымліваць. Гэта — дар. Рытуал даўжынёю ў жыццё. Гарачыя вуглі ў далонях кагосьці сагрэюць. Хай не сёння, а ўсё ж…***

***Жыццё без страху. Ці магчыма? Страх апярэджвае любы інстынкт. Страх фізічнай немачы, страх холаду, судовага працэсу, турмы, адзіноты, вар'яцтва, страх абуджэння свядомасці, страх смерці. Страх захварэць і страх выжыць. Страх сустрэць і страх не сустрэць. Выпасці з утульнага гнязда драмлівага небыцця — страх. Можна загінуць. Альбо навучыцца лятаць.***

***…Адрынутаму загадалі пакінуць краіну пад страхам смерці. А ён пераапрануўся, каб не пазналі, і зноў гэтай краіне служыць. Жыццё без страху. Ратаванне — пераадолець яго. Тут — асалода. Нязгасны ліхтар духу, неабмежаваны зямным прыцяжэннем. Разумець гэта неабавязкова. Дастаткова адчуваць: узмежкам сваёй душы, зіхоткім памежжам, што мігціць імшарным срэбрам…***

***

Не кожнаму выпадае лёсам нарадзіцца блізу слаўнага месца, некалі ўганараванага гербам, пячаткай ды магдэбургскім правам. Горад, які помніць легендарную Бону Сфорцу і яе няўдалы праезд праз мост ракі Мухаўца. Горад з трыма брукаванымі вулкамі, лазняй Янкеля Гольдбэрга, 9 млынамі, 4 корчмамі, 12 шынкамі і следам генерала Рэнье.

15 капеек у кішэні, бітая сцежка, халодныя росны ранак, хуткая хада і няўцямнае хваляванне дзіцячага сэрца прывядуць у Пружаны. Там, у гарадской вучэльні, у якую трэба самастойна паступіць, у якой няўсцерпна захочацца стаць лепшым вучнем, трэба абавязкова навучыцца граць на скрыпцы, набыць інструментальны і спеўны досвед, скончыць навучанне на ўсе пяцёркі.

Не кожнаму выпадае лёсам з 6-гадовага ўзросту спяваць у хоры. Хто спяваў, той ведае: на хвалях музыкі, на хуткасных акустычных віражах можна лунаць не толькі голасам: кранацца глыбінь і вынырваць на паверхню, бачыць невядомы, іншы чароўны свет, быць часткай гукавой стыхіі, якая то паглынае, то вызваляе. Уласны голас чуць і губляць, узмацняць і сцішваць, знікаць і зноў з'яўляцца, накрывацца гукавымі хвалямі, свідраваць і пераадольваць іх пругкасць і, урэшце, узляцець высока-высока, і там, на высачэзнай ноце-ўзнясенні, прыпыніцца, агледзецца і… зноў абрынуцца долу, падабраным, нібы пер'е, чыймсьці неабдымным крылом, і вярнуцца ва ўстойлівую гарызанталь мелодыі.

Так пачынаўся Рыгор Шырма. Не кожнаму выпадае ў дзяцінстве атрымаць порцыю пагарды і шавіністычных наскокаў, здзекаў і смехаў з родных песень. Не кожнаму выпадае трываць крыўды і прыніжэнні ад атачэння, якое ўспрымала родную мову і песні як перакручаныя расійскія. Гэта жыццё падавала знак. Балюча гартавала моц, каб абуджанае сэрца палымнела і не скамянела ў трыванні.

Кемлівага вучня цяжка не прыкмеціць. Настаўнік літаратуры Манцэвіч, чыё імя захавала гісторыя, заўважыўшы рэакцыю Рыгоркі на беларускую песню, заахвоціў малога ўзяць ды самому запісваць песні. «Як запісваць?» — «А вось так! Ты ж ноты ведаеш?» — «Ведаю…» — «Мелодыю чуеш?» — «Чую…» — «Запамінаеш?» — «Запамінаю…» — «Ну, дык намалюй пяць палосачак-стужачак, пастаў скрыпічны ключ, вазьмі аловак дый запісвай! Усё проста!»

Парада тая, прамоўленая настаўнікам, паўстала пазней чатырма тамамі самаруч запісаных песень, агульнай калекцыю звыш дзвюх тысяч. Першыя запісаныя песні — ад гаспадыні хаты, у якой кватараваў малады збіральнік, — Ганны Дудзейка. Першая фальклорная экспедыцыя — найбліжэйшым летам. Куды? Як куды? У Белавежскую пушчу!

***

*Высокі суд! Залежны «незалежнік»!*
*Паглянь! Перад табой стаіць*
*бунтар-мяцежнік*
*з вачыма гордымі і поўнымі агню.*

В.Таўлай




*Рыгор Шырма разам з Нілам Гілевічам.*

«Станем флейтай, станем кіфарай!» — заклікаў Златавуст. Калі гучыш, трапляеш у патрэбны тон, суладдзе. З кім супадаеш? З кім дысануеш? У Пружанах — ні флейты, ні кіфары. У Пружанах — царква і спеўны люд. У Пружанах — маладая, поўны захаплення Рыгор, які прагне цуду: «Бог загадаў, каб тваё жыццё стала псальмай…»

Дырыжорская кар'ера. *«Туляюся з сям'ёю ў свіронку…»*. Рэгенцтва ў пружанскай царкве: не хадзіць жа лесарубам у Белавежскую пушчу! Умельства і сіла згаладнелага студэнта ў асветніцтве: *«Настрой насельніцтва спрыяльны… патрэбна толькі глыбей правесці ў масы прапаганду. …па валасцях работы няма яшчэ ніякай. …Газет няма ніякіх. Перакапальна прашу выслаць "Беларускі звон" і ўсё, што можа быць карысным у перадвыбарнай кампаніі»*.

Лісты да Браніслава Тарашкевіча. Знаёмства. Сустрэчы. Яны супалі не толькі поглядамі. Яны нарадзіліся ў адзін год і дзень — 20 студзеня 1892 года: на Прывадохрышча — акурат, як Каляды заканчваюцца, а Малая вясельныя пачынаецца. Працы дазваляецца: «тыкпрытык кудзелю прывалык». Дык і пралі сваю «кудзелю»: Б. Тарашкевіч, уважлівы слухач харавых пружанскіх канцэртаў, і Рыгор Шырма — уражаны пераканаўчым словам аднадумцы: *«Пазастаюцца два шляхі: або павольнае нацыянальнае кананне, або ўпартае змаганне за сваю мову.… Даю Вам слова, што буду карысным як настаўнік, а значыць, і як працаўнік па адраджэнню Беларусі»*.

— Хто такі Шырма?

— Схадзі ў Вільню — паглядзі, не пашкадуеш!..

Вільня. Вялікія спадзяванні. Рабіць бездакорна і бескарысліва. Так жыць — шчасліва жыць: *«каб у братніх сэрцах сярод цемры і бяспуцця загараліся новыя агні, каб паліліся крыніцаю новыя бадзёрыя думы… Бо песня злучае народ, яна ўсведамляе яго і дае сілы змагацца за лепшае заўтра»*.

Галоўнай мэтай дзейнасці Віленскай беларускай гімназіі было захаванне беларускай нацыянальнай самабытнасці, развіццё роднай мовы. Варункі віленскага жыцця Рыгора Шырмы абавязвалі быць не толькі абачлівым, але і рызыкоўна рашучым. Побач — тытаны, магутныя постаці — Максім Гарэцкі, С. Рак-Міхайлоўскі, С. Паўлоўскі.

Стваральны дух натхняў на з'яўленне гімназічнага і студэнцкага хароў. У адным з іх свае першыя крокі зрабіў сусветна вядомы ў будучыні оперны спявак Міхась Забэйда-Суміцкі. Узнікалі драматычныя спектаклі, выдаваліся гімназічныя часопісы. Імпэту хапіла і на стварэнне духавога аркестра! Мастацтва шчаслівага жыцця — бездакорнасць і бескарыслівасць.

Ахвярнасць. Рэальнасць не адбіваецца, не люструецца, а — ствараецца. Імператыў Духа, з нязменнай аскезай жыцця. Варыяцыі сюжэтаў. Варыянтнасць чалавечага існавання. Так па вясне зацвітае шыпшына, так наліваецца зерне ў жніво.

Грунтоўная праца завершаная. Шчасце — лёгкае, а радасць — птушкай на плячы. І тут — выпрабаванне. Ці здолееш ад гэтай кранальнай радасці… адмовіцца? Рыгор Шырма змог. Прачытаўшы першыя вершы Максіма Танка, захапіўшыся імі, адчуўшы тонамі сваёй душы магутны талент нікому не вядомага паэта, здолеў адкласці падрыхтаваны да друку зборнік беларускіх народных песень на карысць вершаў маладога Яўгена Скурко: *«Песні няхай крыху пачакаюць. Бо ў паэта было ўсё такое жывое, балючае. Так і дыхала бунтам чорных скіб. І пераліваліся бурнымі хвалямі Нарачы. Я як узяў у рукі той сшытак, ды як пачытаў толькі пару рэчаў, то й зразумеў, што гэта пэрлы…»*

Кнігу друк абышоў. Не прапусціла цэнзура. Але не бяды! Анёлавы крылы (і не толькі Шырмавы!) шапацелі апладысментамі, зіхацелі шчасцем. Сакатала радасцю Душа. Яе мінула сірочая доля.

***

*«Гукі хаваюць нешта значна*
*большае —*
*святасць, якую нельга дасягнуць*
*разумennем»*

Э.Толе

Душа вяла. Цела рабіла. Душа нібы ведала, што наперадзе. Душа ведала, што ў цьмяным пакуль 1939 годзе стварыцца харавая капэла, роўнай якой няма і не будзе ніколі. Захапленне. З яго вымошчваецца жыццёвая дарога. З яго можа паўстаць храм. Ім можа стаць годна завершанае жыццё. І кніга — храм. Сімфонія — храм. Створаная Рыгорам Шырмам Акадэмічная харавая капэла пачалася з захаплення і вымасціла будучыню, здабытак, гісторыю. Абсалютны слых і мастацкі густ У. У. Алоўнікава пазней засведчыць: «Яе можна было адрозніць па гучанні, па духу і танальнасці ад усіх калектываў краіны». Рыгор Шырма апрацоўваў, сістэматызаваў і ствараў рэпертуар свайму калектыву. Не прапускаў магчымасці натхніць кампазітара на стварэнне новага твора. Душа ведала і вяла. Першыя «залатыя яйкі» капэле прынеслі А. Туранкоў і М. Чуркін. Адзін толькі А. Багатыроў зрабіў 150 апрацовак народных песень, якія пазней і склалі аснову рэпертуару Акадэмічнай капэлы. Спраўджвалася мара: «ад Масквы да самых да акраін» гучалі беларускія народныя песні. «Не спыніць, не стрымаць» было маладога музыканта, дырыжора, фалькларыста. Не спынілі ні разгром Таварыства беларускай школы, ні тры судовыя працэсы, ні краты віленскіх Лукішкаў, ні муры Лубянкі, адкуль вызваліў Якуб Колас. Не спыніла нават тое, што ўсе зробленае да Першай сусветнай вайны палявыя запісы народных песень згарэлі. Разам з хатай у Шакунах.

Быў аблашчаны і не абыдзены ўвагай уладаў, перажыў часы сталіншчыны, дзівацтвы савецкага ладу, тое, як ідэі інтэрнацыяналізму выцясняюць культурныя адметнасці беларусаў. Не стамляўся ствараць, гучаць і, урэшце, абвясціў беларускую песню душой народа, надаўшы ёй новы статус і паважнае стаўленне.

Новае ўсведамленне, бачанне неабходнасці спадчыны, культуры, якое тонкім абрысам ледзь-ледзь праяўлялася на гістарычным культурным небасхіле, займела працяг. Узнікла цэлае пакаленне этнамузыказнаўцаў, сярод якіх З. Я. Мажэйка, В. І. Ялатаў, Л. П. Касцюкавец, У. І. Раговіч, Т. Б. Варфаламеева, Г. В. Таўлай. З фальклорных экспедыцый, з палявых запісаў, занатовак, запісаных на слых, з захаплення паўстае манументальны помнік — збор народных песень — сінтэз жыццёвага здабытку, апраўдання доўгага жыццёвага шляху. Апраўдання жыцця. Апраўданне жыццём. Прынашэнне пакутна-святых дароў.

Завершанасць жыццёвага адмежку з усёй разнастайнасцю і непрадказальнасцю падзей, сустрэч, здарэнняў, з вонкавымі і схаванымі супярэчнасцямі, адпаведнасцямі і супрацьстаяннямі. Жыццё паэтычнай душы, дзе за выпадковым і нязначным паўстае мастацкае азарэнне і бачанне будучыні.

Брэйгель ствараў свае карціны не дзеля забавы сялян. Дастаеўскі пісаў свае раманы не для збядзелых людзей і злодзеяў. І песні збіраюцца для будучыні, для тых, хто імкнецца чыніць тое, што дыктуе высокі дух… Кажуць, гэта азначае быць залічаным у анёльскую школу, дзе некаторых узнагароджваюць прамяністымі крыламі…

***

***Жыццё Рыгора Раманавіча Шырмы даўно заслугоўвае мастацкага рамана альбо оперы. Такім насычаным, такім рызыкоўным, такім духоўным яно было.***

***Надыдзе час, і вернуцца да нас тыя, хто стварае нашу гісторыю, дбаў пра яе. Абавязкова прыйдзе той «новы гісторык». Прыйдзем іншыя «мы» — з прыроджаным імператывам ганарыцца высакародным жыццём папярэднікаў. Іх увасобленая прысутнасць у сучаснасці будзе сведчыць і пра нашу дачыненасць да яркага незвычайнага лёсу сваёй зямлі.***

***Горшым вынікам жыцця, напэўна, было б жыццё раскідзістай яблыні, чые яблыкі ніхто не пазбіраў.***

# ЗНАК ПРЭСТЫЖУ

## Вобразы знакамітых асоб у экслібрысах Яўгеніі Цыбульскай

**Мастацтва пачынаецца з захаплення. Менавіта так адбылося і з маладым аўтарам Яўгеніяй Цыбульскай, творы якой прадстаўленыя на выстаўцы лінарыту «*Ex Libris*. Кніжны знак» у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.**



*Інструменты для стварэння лінагравюры (зверху разцы Арлена Кашкурэвіча).*

Мастакоў, якія працуюць над стварэннем экслібрысаў, у нашай краіне цяпер не так і шмат. Але цікавасць да падобных твораў ёсць, што даказвае колькасць наведвальнікаў экспазіцыі. Выстаўка Яўгеніі Цыбульскай атрымалася паспяховай і цікавай для тых, хто імкнецца зразумець тэхналогію стварэння экслібрысаў. Мастачка кажа, што, каб працаваць у тэхніцы лінарыту, неабходна мець час і быць спрытным:

— Я спачатку рыхтую дошку — адмысловы лінолеум, які трэба зашліфаваць і затаніраваць, — удакладняе мастачка. — Потым спецыяльнымі прыладамі выразаю гравюру. Пры гэтым трэба разумець: тое, што выразаеш, будзе белым і выява атрымаецца ў люстэркавым адбітку. Таму ўсё правяраецца праз люстэрка, напрыклад, тэкст павінен ісці ў адваротны бок, і кожная літара таксама перакульваецца. Потым пачынаецца друк. Я аддаю перавагу «жываму друку»: наношу валікам фарбы на гатовую дошку, пасля кладу паперу, а потым адціскаю звычайнай лыжкай фарбу на яе. Друк аднаго эстампа займае каля дзесяці хвілін.

Экслібрыс — кніжны знак, невялікая па-мастацку выкананая налепка на ўнутраным баку вокладкі з імем, прозвішчам уладальніка выдання альбо сімвалам арганізацыі, якой належыць кніга. У мінулыя гады экслібрысы былі неверагодна папулярнымі: кніжны знак паказваў статнасць, забяспечанасць уласнікаў. З'яўленне беларускага экслібрыса звязана з дзейнасцю Францыска Скарыны. Першы вядомы беларускі кніжны знак датуецца 1533 годам, гэта абрэзаная гравюра з выявай герба князёў Гальшанскіх. Цяпер экслібрыс практычна не выкарыстоўваюць, але ж мастакі не забываюць пра існаванне такога мастацкага кірунку: ствараюць унікальныя кніжныя знакі для калекцыйных выданняў. Цяпер экслібрысы могуць прадавацца альбо імі абменьваюцца калекцыянеры.

— Маё знаёмства з тэхнікай лінагравюры адбылося, калі я ўбачыла серыю ілюстрацый Арлена Кашкурэвіча да паэмы «Бандароўна» Янкі Купалы: гэта такія шыкоўныя, якасныя творы, — распавядае Яўгенія Цыбульская. — Я адразу захапілася. Пасля таго як у 2013 годзе майстар сышоў з жыцця, ягоны апошні вучань і мой настаўнік — мастак Андрэй Ясінскі — дазволіў мне працаваць разцамі, якімі Арлен Міхайлавіч выразаў «Бандароўну». Зараз я карыстаюся імі. Займаючыся лінагравюрай, я выказваю сябе. Упэўнена, што гэты кірунак мастацтва трэба захоўваць і развіваць.

*Яўгенія Цыбульская побач з экслібрысам, прысвечаным Аляксандру Шапо.*

Гледачу складана ўявіць, як можна з дапамогай адных рук выводзіць такія акуратныя, вытанчаныя лініі, перамяжоўваць іх і атрымліваць мастацкую кампазіцыю.

Яўгенія Цыбульская прадумала канцэпцыю выставачнага праекта, у якім кожны экслібрыс прысвечаны знакамітаму дзеячу беларускай культуры. За аснову ўзяты не знешні фактар, а сутнасць асобы. Мастачка падышла да справы не без гумару: кожнага героя адлюстравала ў незвычайным амплуа. Глядач сам можа паспрабаваць адгадаць, чый вобраз на выяве.

У творчасці мастачка звяртаецца да белага і чорнага колераў, іншыя выкарыстоўвае зрэдку. Яна ўпэўнена, што кантраст цёмнага і светлага набывае метафарычны сэнс — адпавядае сутнасці знешніх і ўнутраных канфліктаў.

Выставачны праект Яўгеніі Цыбульскай распачаў серыю мерапрыемстваў Нацыянальнага гістарычнага музея, прысвечаных 500-годдзю беларускага кнігадрукавання.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

## *Культурны ракурс*



**Нямала вялікіх беларусаў у розныя часы жылі ў Вільні. І ў наш час Вільнюс прыцягвае гасцей з Беларусі: тут была старажытная сталіца Вялікага Княства Літоўскага. Нашым суайчыннікам асабліва цікава (і проста неабходна!) будзе ўбачыць будынак № 19 на вуліцы Дзіджэй (Вялікая). Лічыцца, што менавіта на яго месцы ў XVI стагоддзі размяшчалася друкарня Францыска Скарыны, менавіта тут пачалася гісторыя кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім і на ўсходнеславянскіх землях. Цяпер на гэтым доме — мемарыяльная дошка (з надпісам на беларускай і літоўскай мовах) беларускаму кнігадрукару, які выдаў у 1522 годзе «Малую падарожную кніжыцу» на старабеларускім варыянце царкоўнаславянскай мовы, а праз тры гады — «Апостал».**

**Унутраны рамантычны сярэдневечны дворык будынка (уваход з боку вуліцы Шчіклю) называецца «Дворыкам летапісца»: чалавек сядзіць там з адкрытай кнігаю ў руках. Аўтар помніка «Летапісец» — Вацловас Круцініс. Скульптура ўсталявана ў 1973 годзе.**

**Дарэчы, гісторыя гэтага панадворка цягнецца з XV стагоддзя. У XVI стагоддзі тут размяшчалася друкарня Мамонічаў. Месца вабнае: сюды любяць завітваць турысты і асобныя вандроўнікі, што імкнуцца спасцігнуць таямніцы свету. Некаторыя з іх раскрываюцца побач з «Летапісцам».**

**Міра ІЎКОВІЧ**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў мінулым нумары нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
2.02.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1720.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 558

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2017
© ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2017
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», 2017

ISSN 0024-4686